17 студзеня 2020 | № 2 (661)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

**На лабутэнах у Дзярждуму**
Стар. 8

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**4 ШКОЛА ПАВІННА ФАРМІРАВАЦЬ ЭЛІТУ**

Беларусь упершыню паўдзельнічала ў аўтарытэтным міжнародным даследаванні ўзроўню сярэдняй адукацыі PISA-2018

**5 ЧЫТАЙЦЕ РАЗАМ КНІГІ!**

Мы самі прывучаем дзяцей да гаджэтаў і дэвайсаў. Сёння бацькам больш выгадна, каб дзеці знаходзіліся дома, — так за іх менш перажываеш



**6–7 «АКТЫВІЗМУ БЕЗ РЭПРЭСІЙ НЕ БЫВАЕ»**

Яркая дзяўчына з татуіроўкамі не надта адрозніваецца ад маладзёнаў, што ходзяць па вуліцах Мінска. Дзяўчыну неаднаразова судзілі, двойчы яна бывала на сутках. Яна — анархістка.

**11 ДВАНАЦЦАЦЬ ПАСТАК НАВАМОЎЯ**

Навамоўе ўтаймоўвае вашыя думкі з дапамогай некалькіх пастак. Якія ж яго рысы?



# Містэрыі ад няўдалых рэжысёраў

**Хоцькі-няхоцькі беларуская дзяржава стала пачынальніцай новага віду мастацтва — судовых містэрыяў**



Дзіяна СЕРАДЗЮК



Калаж www.spring96.org

Мяркуйце самі: «заўзятыя тэатралы, гісторыкі, аматары выяўленчага мастацтва» (памятаеце, як называў сваіх падначаленых экс-міністр МУС?) ладзяць спектаклі, падчас якіх імкнуцца выкрываць «злосных парушальнікаў закона і грамадскага парадку». Жанр містэрыі найбольш адпавядае гэтай з'яве выкшталцонага мастацтва: як мы памятаем, адным з сюжэтаў сярэднявечных містэрый быў Страшны суд. Што не выключае выкарыстання ў прадстаўленні фарсавых п'есак.

Сюжэтная канва ідэальна адпавядае законам класічнай драматургіі. П'есу, у адрозненне ад кнігі ці фільма, нельга адкласці на потым, таму дзея адбываецца без істотных перапынкаў (за выключэннем непрацяглых «антрактаў»), часцей за ўсё — імклівa і дынамічна (многія «рэжысёры» ў мантыях паспяваюць давесці яе да кульмінацыі літаральна за 10 хвілін, не змяншаючы тым самым, а часам, наадварот, павялічваючы напал эмоцый у глядацкай зале.

Варта адзначыць і моманты інтэрактыву ды імправізацыі ў такіх прадстаўленнях. Мала таго, што яны адбываюцца ў сапраўдных судовых залах, гледачы ў іх адначасова з'яўляюцца акцёрамі другога плану і могуць нават выступаць са спантаннымі рэплікамі. Праўда, нядоўга і не надта актыўна — інакш «рэжысёр», імкнучыся захаваць асноўную сюжэтную лінію, можа выдаліць з залы, каб не замінаць гульні галоўных артыстаў.

Ролі ж вядучых дзеючых асобаў распісаныя ў лепшых традыцыях драматычнага жанру: злачынцы тут — абавязкова маргінальныя тыпы, у пераважнай большасці беспрацоўныя, з сярэдняй адукацыяй. Паводле сюжэту, яны імкнуцца дэстабілізаваць сітуацыю ў адной квітнеючай краіне, ладзячы масавыя беспарадкі, выкарыстоўваючы незарэгістраваную сімволіку і выгукваючы забароненыя лозунгі. Але іх небяспечныя дзеянні своечасова і мужна спыняюць гераічныя прадстаўнікі грамадства, якія няспынна, часам працуючы пад прыкрыццём і па ненармаваным графіку, нясуць сваю няпростую службу па выратаванні самай стабільнай у свеце краіны.

Гэтыя героі ўвасабляюць сабой ідэал чалавека: брутальныя і спартовыя звонку, яны не ўяўляюць свайго жыцця без прыгожага мастацтва. Апроч таго, яны маюць фенаменальную памяць і іншыя звышчалавечыя здольнасці. Нават жывуць яны ўсе як на падбор на адной вуліцы з гучнай і надзвычай адпаведнай назвай — Герояў 120-й дывізіі.

Разам з тым, нягледзячы на імкненне прытрымлівацца класікі жанру, стваральнікі судовых містэрыяў не баяцца ламаць звыклы сцэнар. Напрыклад, сфармуляванае яшчэ Арыстоцелем і абавязковае для ўсіх класічных драматычных твораў адзінства месца, часу і дзеяння ў спектаклях становіцца зусім неабавязковым. Так, некаторыя героі (часцей за ўсё адмоўныя) умудраюцца адначасова прысутнічаць у некалькіх месцах. Але гэта не ратуе іх ад грознага і страшнага прысуду.

Жанр судовых містэрыяў яшчэ малады, але ўжо, здаецца, прэтэндуе на тое, каб стаць нацыянальным. Аднак пакуль што ён мае адну істотную хібу: надта высокая плата за прадстаўленне — ад 15 да 50 базавых за адзін квіток, альбо да 15 дзён зняволення — пэўна, каб лепей асэнсаваць ідэю спектакля.

А што вы хацелі? Шэдэўры мастацтва каштуюць дорага. Адметнасць беларускіх судовых містэрыяў у тым, што выдаткі за паказы ў іх кладуцца на плечы галоўных «злодзеяў», як таго вымагае «справядлівасць» у гэтым тэатры абсурду.

Асабліва высокі кошт выставілі хрысціянскаму дэмакрату Паўлу Севярынцу, які, адбыўшы 15 сутак у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на завулку Акрэсціна, выйшаў на свабоду і праз некалькі гадзін атрымаў яшчэ два разы па столькі ж. Але пакуль палітык знаходзіцца дома з сям'ёй, і невядома, калі распачнецца яго новы «гастрольны тур» у ЦІП.

Увогуле, калі для кагосьці судовыя містэрыі — суцэльны фарс, то для многіх яны перайтвараюцца ў сапраўдныя драмы. Паводле дадзеных праваабаронцаў, рэпрэсіі з боку ўладаў толькі за снежань 2019 года зазналі 89 чалавек, з іх 11 атрымалі арышты. Агульная сума штрафаў склала 3633 базавыя велічыні (амаль 96 тысяч рублёў). Паўтаруся, гэта без уліку студзеньскіх судоў, якія яшчэ працягваюцца.

**Калі для кагосьці судовыя містэрыі — суцэльны фарс, то для многіх яны становяцца драмай**

Людзі атрымліваюць непад'ёмныя сумы штрафаў, страчваюць волю, а разам з ёй — магчымасць паўнавартасна працаваць, утрымліваць сем'і, падрываюць свае фізічныя і маральныя сілы. І ім вельмі патрэбная нашая з вамі падтрымка. Варыянтаў аказаць яе шмат. Пачынаючы ад самага простага — дасласць зняволеным паштоўкі, сказаць добрыя словы. Можна падтрымаць любой сумай (і справай!) сем'і тых, хто пацярпеў па выніках хлуслівых судоў. Многія беларусы праявілі прыемную салідарнасць і распачалі адразу некалькі збораў сродкаў на выплату штрафаў: кампанія BY_help на платформе MOLAMOLA і ў Фэйсбуку сабрала ўжо больш за 15 тысяч долараў. Таксама грошы на штрафы пісьменнікам збірае ПЭН-цэнтр, адкрыты краўдфандынг у падтрымку гродзенскіх актывістаў.

# «Магчыма, такога абсурду ў заканадаўстве яшчэ не было»

**Юрыст і рэдактар сайта statut.by Аляксандр Горбач у каментары «Салідарнасці» патлумачыў, што не так з новай рэдакцыяй Жыллёвага кодэкса, якая набыла моц крыху больш за два тыдні таму.**

Новая рэдакцыя Жыллёвага кодэкса набыла моц з 1 студзеня 2020 года. Нягледзячы на тое, што чыноўнікі праз дзяржаўныя СМІ ўвесь час рапартавалі пра нейкія «прагрэсіўныя» навіны новай рэдакцыі ЖК, на самай справе нічога незвычайнага не адбылося.

Папросту апошні Жыллёвы кодэкс быў прыняты ў 2012 годзе, уступіў у сілу ў сакавіку 2013-га, і ўжо з таго ж года пачалі адзін за адным з'яўляцца ўказы кіраўніка дзяржавы, якімі ўсталёўваліся іншыя, адрозныя ад ЖК, правілы рэгулявання жыллёвых адносін. Гэта былі ўказы і пра сумеснае домаўладанне, і пра арэнднае жыллё, і пра пастанову на ўлік для паляпшэння жыллёвых умоваў, і па жыллёва-камунальных паслугах.

Кожны з указаў утрымліваў даручэнне ўраду ў шасцімесячны тэрмін распрацаваць і ўнесці ў парламент адпаведныя змены ў ЖК, каб прывесці яго ў адпаведнасць з указамі. Але ўрад не спяшаўся выконваць гэтыя даручэнні. У выніку ледзьве не палова ЖК не адпавядала ўказам, якія, як вядома, у нашай краіне ў адносінах да кодэкса маюць большую юрыдычную сілу.

Склалася сітуацыя, што пры вырашэнні многіх пытанняў у ЖК можна было ўжо і не зазіраць — ледзь не ўсё рэгулявалася ўказамі. І, нарэшце, вырашылі ўсё зрабіць адным махам: выклалі Жыллёвы кодэкс у новай рэдакцыі, прывялі яго ў адпаведнасць з указамі. За выключэннем аднаго раздзела — V «Сумеснае домаўладанне».

У значнай ступені гэтыя адносіны рэгуляваліся ўказам ад 14.10.2010 №538 «Аб некаторых пытаннях дзейнасці таварыстваў уласнікаў і арганізацый забудоўшчыкаў», які, дарэчы, з 2013 года таксама некалькі разоў мяняўся. Але ў новай рэдакцыі ЖК усталёўваўся іншы парадак дзейнасці таварыстваў уласнікаў (ТУ) і жыллёвых спажывецкіх кааператываў (ЖСК), чым вызначаны ўказам №538.

Выглядала дзіўна, што прымаецца кодэкс, які супярэчыць указу, аднак супярэчнасць абяцалі ліквідаваць адменай указа. Але па стане на 1 студзеня 2020 года новая рэдакцыя ЖК набыла моц, а ўказ №538 ніхто не адмяніў. У выніку — у ЖК усталяваны адзін парадак дзейнасці ТУ і ЖСК, а ва ўказе №538 — зусім іншы. Пры гэтым, паўторымся, указы ў нас маюць большую юрыдычную сілу, чым законы, у тым ліку і кодэксы.

І, як ні круці, атрымліваецца, што новая рэдакцыя ЖК, хоць і набыла моц, але ў частцы, якая супярэчыць указу №538, не можа прымяняцца.

У Беларусі каля 10 тысяч таварыстваў уласнікаў і жыллёвых кааператываў. Гэтыя арганізацыі (іх кіраўнікі) у роспачы: чым кіравацца — ЖК ці ўказам? Усе настроіліся ўжо на новую рэдакцыю ЖК, і цяпер не разумеюць, што рабіць, чым кіравацца. Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі паведаміла толькі тое, што кіравацца варта ўказам №538, пры гэтым нічога не тлумачачы ні пра прычыны такой сітуацыі, ні пра тое, як надоўга яна зацягнецца.

То-бок, некаторым нормам новай рэдакцыі ЖК, па сутнасці, не наканавана было нават уступіць у сілу — бо ЖК, некаторыя нормы якога супярэчаць указу кіраўніка дзяржавы, а таму не могуць прымяняцца.

Магчыма, такога абсурду ў беларускім заканадаўстве яшчэ не было. Яшчэ больш абсурдным выглядае тое, што таварыствам уласнікаў і жыллёвым кааператывам ніхто нічога не тлумачыць — людзі не разумеюць, як працаваць, чаго чакаць.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Ці пачуе Мінкульт грамадскасць?

Марат ГАРАВЫ

**Адклікаць узгадненне на пракладку сілавога кабелю ў ахоўнай зоне Курапатаў, ужо ў другім лісце просяць прадстаўнікі грамадскасці міністра культуры Беларусі Юрыя Бондара.**

Аўтары ліста адзначаюць, што на першы пісьмовы зварот да міністра культуры каардынатара грамадзянскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў» атрыманы адказ ад 16 снежня 2019 года за подпісам першага намесніка міністра культуры Наталлі Карчэўскай. Яна паведаміла, што Міністэрства культуры не давала дазволу на пракладку кабелю ў ахоўнай зоне Курапатаў.

Нагадаем, 29 лістапада 2019 года ў Доме культуры аграгарадку Лясны пад Мінскам адбылося грамадскае абмеркаванне ўздзеяння на навакольнае асяроддзе праекту кампаніі А-100 «Будаўніцтва жылога раёна з інжынерна-транспартнай інфраструктурай і аб'ектамі сацыяльна-гарантаванага абслугоўвання насельніцтва каля вёскі Копішча Мінскага раёна. Кабельныя лініі электраперадачы напружаннем 10 кілавольт».

Падчас грамадскага абмеркавання зазначалася, што ў ахоўнай зоне гісторыка-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 30-х — 40-х гадоў XX стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты» на паўночны захад ад яе раней была пракладзена дзеючая траса інжынерных камунікацый (для вады, газу, электрычнасці, цяпла, тэлефоннай сувязі і каналізацыі). Побач з гэтай дзеючай трасай зноў у ахоўнай зоне Курапатаў мяркуецца пракласці новую трасу пад кабель у 10 кілавольт.

Апроч таго, каля палювы даўжыні трасы запланаванай пракладкі кабелю ўздоўж Заслаўскай шашы таксама праходзіць не ў створы існуючай трасы інжынерных камунікацый у паласе адводу аўтадарогі, а ў ахоўнай зоне Курапатаў.

Разам з тым, архітэктары — аўтары праекту пракладкі гэтага кабелю — не звярталіся да археолагаў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з пытаннямі, што тычацца навуковага суправаджэння названага праекту.

Паколькі пракладка ў ахоўнай зоне Курапатаў новага кабелю ў 10 кілавольт супярэчыць заканадаўству, аўтар звароту прасіў адклікаць адпаведныя дазволы на гэтыя працы, што выдала Міністэрства культуры.

Як патлумачыла Наталля Карчэўская, для разгляду па сутнасці зварот накіраваны па кампетэнцыі ў Мінскі райвыканкам, а для звесткі — у Нацыянальную акадэмію навук Беларусі.

Як стала вядома грамадскасці, 3 чэрвеня 2016 года Міністэрства культуры ўзгадніла праектную дакументацыю па пракладцы кабелю на падставе таго, што ў ахоўнай зоне Курапатаў «дазваляецца эксплуатацыя і рэканструкцыя існуючых інжынерных камунікацый».

На меркаванне аўтараў другога ліста, у гэтым узгадненні закладзена памылка, бо плануецца не рэканструкцыя існуючых інжынерных камунікацый, а пракладка новага кабеля, якога раней не было, бо не было жылога раёна ля вёскі Копішча, да якога гэты кабель пракладаецца.

Грамадзяне просяць Юрыя Бондара адклікаць названае ўзгадненне Міністэрства культуры ад 3 чэрвеня 2016 года, паколькі ў ахоўнай зоне Курапатаў дазваляецца пракладка толькі тых падземных інжынерных камунікацый, што неабходныя для эксплуатацыі аб'екта ўшанавання памяці ахвяраў, а не іншага прызначэння.

Сярод падпісантаў ліста — старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій Зінаіда Тарасевіч, археолаг Валянціна Вяргей, мовазнаўца Вінцук Вячорка, бард Зміцер Захарэвіч, мастакі Генадзь Драздоў, Аляксей Марачкін, Ігар Марачкін і аўтар гэтага артыкулу.

# Пра забойства настаўніцы і санкцыю на зло

Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

**Я думаю пра Іллю і Станіслава Косцевых, якім вынесены смяротны вырак за жорсткае забойства настаўніцы.**

Уадрозненне ад апошніх смяротных і несмяротных нападаў на настаўніц, нічога незразумелага ў фактаграфіі гэтай справы няма. Усё як на далоні. Зразумелым было і тое, што вырак будзе смяротны, бо па справе яшчэ да абвяшчэння прысуду адназначна выказаўся кіраўнік дзяржавы.

Мне адразу ўспомнілася справа 2009 года, калі ў Жыткавіцкім раёне чатыры чалавекі жорстка забілі і спалілі Мікалая Макарэвіча. Пракурор тады запатрабаваў адпаведныя тэрміны забойцам, але паколькі па гэтай нашумелай справе адназначна выказаўся кіраўнік дзяржавы, вырак быў максімальна мяккі, а потым і наогул — выйшла памілаванне. Ніводзін з забойцаў не панёс пакарання. Ніякага і зусім.

Яшчэ мне ўспомнілася адна кніжка. Яе напісала амерыканская журналістка Лаянэл Шрайвэр, якая доўгі час займалася даследаваннямі школьных расстрэлаў: калі дзеці страляюць аднакласнікаў і настаўнікаў. Сабраўшы дзясяткі такіх гісторый, вывучыўшы фактаграфію, пагутарыўшы і з бацькамі забойцаў, і з самімі забойцамі, Шрайвэр абагульніла свае ўражанні ў мастацкай кнізе «Мы павінны пагутарыць пра Кевіна» (у нас яна прадавалася ў рускім перакладзе і называлася «Цена нелюбви»).

Шрайвэр бачыць глыбінныя прычыны такіх учынкаў менавіта ў сям'і — прычым нават самая, здавалася б, прыстойная, звонку прыгожая сям'я можа выхаваць забойцу. Але гэта відавочна, і для любога настаўніка (і не толькі для настаўніка) не сакрэт: забойцаў выхоўваюць маці і бацька, а не благая кампанія, школа альбо прэзідэнт. У кнізе цікава іншае: вялікі кавалак сюжэту — гэта адносіны мамы і сына пасля судовага выраку.

У кнізе падлетак-забойца асуджаны на вялікі турэмны тэрмін, і маці ездзіць да яго на спатканні. Сама адукаваная і глыбокая, мама бясконца перажывае тое, што адбылося, бясконца рэфлексуе, бачыць, нарэшце, і сваю віну — яна ніколі не любіла Кевіна. Маці шмат гутарыць з сынам — і раптам адчувае, што пачынае яго любіць. Праз некаторы час пасля гэтага ў адной з гутарак высвятляецца, што Кевін нарэшце ўсвядоміў тое, што зрабіў, — і пачынае сапраўды раскайвацца.

Дзевятнаццацігадовы Станіслаў Косцеў і ягоны брат Ілля, на два гады старэйшы, мелі няшмат магчымасцяў не стаць злачынцамі. Мы не ведаем і па сёння, ці нараджаюцца дзеці адразу больш ці менш сацыяльна агрэсіўнымі, ці агрэсія і зверства абумоўленыя толькі (не)выхаваннем, але ў любым выпадку сям'я можа навучыць кантраляваць сваю агрэсію, а можа — выхаваць яе.

Гэтыя дзеці жылі ў такіх умовах, што абсалютна не дзіва, што яны сталі забойцамі. Больш за тое. У іх не было і ўжо не будзе магчымасці супрацiўляцца матрыцам, закладзеным у дзяцінстве, працаваць са сваімі траўмамі, ратаваць чалавечае ў сабе (а яно ў іх, няхай і ў звыродлівым выглядзе, але было — любоў да сястры, прыкладам). Магчыма, яны б нешта маглі з сабой зрабіць, асабліва калі б побач з імі (найперш з малодшым) апынуўся б добры, сапраўдны святар, альбо разумны, неабыякавы настаўнік, альбо харошы сябар, альбо моцная маці. Магчыма, яны б маглі раскаяцца і справіцца з сабой самастойна — бывае і такое. Слабы, з дзяцінства зняважаны ўласнай маткаю чалавек не можа стаць іншым у дзевятнаццаць, але ў сорак — можа.

Але яны гэтага не зробяць, бо іх заб'юць. І заб'юць не таму, што мусяць, — маглі б даць пажыццёвае. Заб'юць таму, што суддзя меў не юрыдычную, не пісьмовую, але ж — санкцыю на зло.

Калі чалавек становіцца забойцам таму, што ў яго пітушчая маці, благое асяроддзе і паскуднае жыццё, — гэта адно. Калі чалавек становіцца забойцам таму, што ў яго ў жыцці ўсё добра, але ён слухаецца чужога, ды яшчэ і вуснага, загаду, — гэта зусім іншае. Калі ў чалавека адымаюць магчымасць раскаяцца — гэта адно. Калі чалавек нават каяцца не будзе, бо не адчувае сваёй віны ў нечай смерці, — гэта іншае.

Акрамя таго, што наша судовая сістэма даўно скампраметавала сябе як сістэма — у ёй адбываецца самае страшнае, што можа адбывацца з людзьмі. Атрымаўшы санкцыю на зло, яны перастаюць лічыць сябе вінаватымі. У братоў Косцевых шанец пакаяцца быў — бо яны ўчынілі зло самі. У людзей, што забіваюць на загад, шанцаў пакаяцца амаль няма, хоць яны і будуць жыць доўга і шчасліва, — бо не лічаць, што вінаватыя.

Менавіта з санкцыі на зло, атрыманай з самага верху, пачынаюцца генацыды і рэпрэсіі, на санкцыянаваным зле стаіць нацызм і сталіншчына. Не Ілля і Станіслаў Косцевы — самыя страшныя тут. З такіх азвярэлых падлеткаў не вырастаюць крывавыя рэжымы і масавыя смерці. Самыя страшныя забойствы робіцца тымі, хто пагаджаецца забіваць на загад.

Не трэба баяцца, што хутка настане трыццаць сёмы год. Ён даўно тут. Санкцыі выдаюцца, і самае страшнае, што іх бяруць. Пакуль існуе інстытут смяротнага пакарання, у нас ніколі не будзе іншага года, акрамя трыццаць сёмага.

**Радыё «Свабода»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Дык што там з нафтай?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Аляксандр Рыгоравіч працягвае выступаць у ролі пажарнага. Пакуль усе турбуюцца пра тое, што Расія спыніла пастаўкі нафты, ён не перастае сцвярджаць: усё добра, нічога страшнага. Але тым часам правёў закрытае пасяджэнне з урадам. Хаця падводзіць вынікі года было запланавана крыху пазней.**

Гледзячы па каментарах урадаўцаў з гэтага пасяджэння, здавацца ніхто не збіраецца. Віцэ-прэм'ер Дзмітрый Крутой нават заявіў, што Беларусь «лічыць эканамічна немэтазгодным і бессэнсоўным плаціць прэміі расійскім нафтавым кампаніям, і цяпер актыўна працуе над схемай альтэрнатыўных паставак нафты, вывучаючы ўсе магчымыя варыянты».

Мы са здзіўленнем даведаліся, што, узамен на пастаўкі нафты, мы плацілі расійскім кампаніям «адкат» — 10 долараў за тону. Прычым, такая сітуацыя трывала з 2011 года. Аднак цяпер, «ва ўмовах рэалізацыі падатковага манеўру і штогадовага павелічэння кошту нафты для Беларусі за кошт памяншэння мытнай пошліны, плаціць прэмію расійскім нафтавым кампаніям у тым памеры, у якім мы дамаўляліся гэта рабіць у 2011 годзе, сёння не мае ніякага сэнсу, гэта проста эканамічна немэтазгодна», — заявіў журналістам Крутой.

Сапраўды, калі мы будзем набываць нафту нармальна, навошта плаціць «адкаты»?

Паводле слоў віцэ-прэм'ера, урад працягвае адпрацоўваць схему альтэрнатыўных паставак нафты, вывучаюцца ўсе магчымыя варыянты. «Мы разаслалі адпаведныя камерцыйныя прапановы. Усе камерцыйныя службы нашых заводаў, Беларускай нафтавай кампаніі знаходзяцца на перамовах практычна ў штодзённым рэжыме. Думаю, тут мы таксама хутка атрымаем альтэрнатыўныя варыянты пастаўкі канкрэтнай нафты, — дадаў Дзмітрый Крутой. — Усе магчымыя краіны: і Украіна, і Польшча, і краіны Балтыі, і Казахстан, і Азербайджан. Мы цяпер заняліся гэтым пытаннем».

Добра ўжо тое, што ўрэшце пачалі варушыцца. Прычым, гледзячы па ўсім, не без плёну. Мы ўжо пісалі пра тое, што нафту з Балтыі нам гатовая пастаўляць Літва — трэба толькі адправіць туды заяўку і цыстэрны. Можна разлічваць на 3 мільёны тон нафты штогод. Зараз да Літвы, падаецца, далучаецца суседка.

На тыдні Беларусь наведаў прэм'ер-міністр Латвіі Крыш'яніс Карыньш. Ён абмяркоўваў з кіраўніцтвам Беларусі не толькі сумесны Чэмпіянат свету па хакеі 2021 года, але і пытанне паставак той самай нафты.

Тэма рэверсных або альтэрнатыўных паставак нафты з'явілася ў беларуска-латвійскім дыялогу не ў снежні і не ў студзені. Гэтае пытанне ў той ці іншай ступені абмяркоўваецца пастаянна. Праз Латвію ўжо даўно ідзе паток беларускіх нафтапрадуктаў на Захад. Праз латвійскія парты ў мінулым годзе было пастаўлена за 3,7 мільёна тон прадукцыі беларускіх НПЗ, задзейнічаныя парты Вентспілса, Рыгі і ў меншай ступені Ліепаі. Аб'ём чыгуначных перавозак склаў 5,3 мільёна тон.

Застаецца проста не ганяць з Латвіі «паражняк» у цыстэрнах, а наліваць у іх нафту, каб яны вярталіся дадому з сыравінай. Пры гэтым Латвійскае міністэрства транспарту пацвердзіла, што заўсёды гатова ўдзельнічаць, калі будуць праекты па альтэрнатыўных пастаўках нафты.

Чым добрая для паставак вуглевадароду Балтыя — тым, што гэта кароткае «лагістычнае плячо», і нафта адтуль прыйдзе за суткі-двое. Такім чынам, 3 мільёны тон мы можам атрымаць з Літвы, каля 4 мільёнаў тон — з Латвіі. Улічваючы, што нашыя НПЗ нармальна працавалі пры загрузцы ў 18 мільёнаў тон на год, то такім чынам на траціну мы іх загрузім. Былі б толькі грошы расплаціцца за гэтую нафту.

**Тэма рэверсных або альтэрнатыўных паставак нафты з'явілася ў беларуска-латвійскім дыялогу не ў снежні і не ў студзені. Гэтае пытанне ў той ці іншай ступені абмяркоўваецца пастаянна. Праз Латвію ўжо даўно ідзе паток беларускіх нафтапрадуктаў на Захад**

Пры гэтым крызісных з'яваў у беларускай эканоміцы па-ранейшаму пакуль не назіраецца. Міністр фінансаў Максім Ермаловіч нават раскрыў журналістам ваенную таямніцу: Мінфін Беларусі загадзя падрыхтаваўся да рызыкаў, звязаных са змяненнем умоў паставак энерганосьбітаў. А таму не бачыць неабходнасці прыняцця нейкіх экстраных захадаў з-за спынення з 1 студзеня паставак расійскай нафты. Няма неабходнасці нават у такім звыклым кроку, як змяненне бюджэту на гэты год, сказаў Ермаловіч.

Так што ўсё ідзе паводле плану. Адзінае незразумелае пытанне — што ў нас з нафтавым транзітам. Кошты на транзіт расійскай нафты ў Еўропу вызначаюцца менавіта пры падпісанні нафтавага кантракту. А калі гэты кантракт не падпісаны, адпаведна, не падпісанае і пагадненне аб транзіце. Між тым, праз нашу тэрыторыю расійская нафта на Захад цячэ спраўна і без перапынку. Як мы будзем лічыць гэты паток?

На цырымоніі ўручэння прэмій «За духоўнае адраджэнне» Лукашэнка казаў, што Расія прапанавала пастаўляць нам сыравіну «па цане, большай за сусветную». Можа быць, нам з транзітам паступіць гэтак жа? А калі не будуць плаціць — перакрыем кранік і мы. Бо, калі ўжо ў нас нафтавая вайна, дык трэба ваяваць жа, праўда?

Канешне, ад спынення транзіту найперш узвые не Расія, а Заходняя Еўропа. Але і гэтым не перашкодзіла б нагадаць, што існаваў такі «Будапешцкі мемарандум», па якім на Беларусь і Украіну недапушчальны нават эканамічны ціск. І нехта гэты мемарандум падпісваў. А калі ўжо расійскі «Коммерсантъ» наўпрост піша, што спыненне паставак нафты звязана з «інтэграцыйным ціскам», то чаго тут саромецца? Трэба выконваць свае абавязкі, як гэта зрабіла Беларусь адносна ядзернай зброі.

А тым часам мы проста пазбаўляемся ад нафты. У Беларусі зацвердзілі план мерапрыемстваў па паэтапным зніжэнні выкарыстання палімернай упакоўкі з яе замяшчэннем на ўпакоўку экалагічна бяспечную. Адпаведную пастанову ўрад прыняў 13 студзеня, яе падпісаў прэм'ер Сяргей Румас.

Плануецца стварыць аб'екты па перапрацоўцы адходаў палімернай упакоўкі. У планах Саўміна — укараненне дэпазітнай сістэмы абарачэння спажывецкай упакоўкі, павелічэнне аб'ёмаў выпуску экалагічна бяспечнай (шкляной, папяровай, біяраскладальнай) упакоўкі. А з 1 студзеня 2021 года ў аб'ектах грамадскага харчавання забароняць выкарыстанне і продаж аднаразовага пластыкавага посуду. У 2021-м ва ўрад збіраюцца ўнесці праект пастановы аб паэтапным абмежаванні максімальнай ёмістасці палімернай тары, што прымяняецца для разліву піва і слабаалкагольных напіткаў (да 1 літра ўключна).

І гэта правільна: трэба берагчы нашу прыроду. Па словах старых партызанаў, лясы нам яшчэ спатрэбяцца.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жамчужны



**У апошнім па часе лісце да віцебскіх праваабаронцаў палітвязень выказвае меркаванне, што грамадства губляе да яго цікавасць.**

Плынь карэспандэнцыі, якую Жамчужны атрымліваў гадам раней, ператварылася ў рэдкія лісты. Жамчужны звязвае гэта з электаральнай кампаніяй, якая праходзіла ў Беларусі. «Гэтыя выбары ўсіх маіх адрасантаў выбілі з сядла. Вельмі спачуваю ім. Разумею, які цяжка вытрымаць трохмесячны выбарчы марафон — як у якасці кандыдатаў, так і назіральнікаў на выбарчых участках», — піша Жамчужны.

«Так, сапраўды, Жамчужны паведамляў мне ў лістах пра тое, што інтэнсіўнасць перапіскі прыкметна паменшылася. Цяпер лісты з волі, па яго словах, сталі "на вагу золата". Цяпер яны прыходзяць радзей, кола падтрымкі і ўвагі грамадскасці да зняволенага звузілася», — лічыць праваабаронца з Віцебска Леанід Свецік.

У апошні час у Жамчужнага з'явіліся праблемы з падачай скаргаў у суды. Фактычна адміністрацыя калоніі пазбавіла палітвязня канстытуцыйнага права на абарону. «Цяпер блакуюць маю перапіску з судамі, патрабуючы дадаваць марку за 5 капеек. Заявы вяртаюць, тэрміны абскарджання заканчваюцца, і рашэнні набываюць законную моц. А гэтую марку мне ўзяць няма дзе!» — паведамляе ў лісце палітвязень.



## Ян Грыб

**За ўдзел у акцыі ў абарону незалежнасці Кастрычніцкі суд Мінска аштрафаваў 83-гадовага Яна Грыба.**

Паводле міліцыянта, Ян Грыб удзельнічаў у акцыі 21 студзеня і з'явіўся на Кастрычніцкай плошчы а 14.00. Грыб сцвярджаў, што прыехаў на Кастрычніцкую плошчу а 16.00, каб сустрэцца з Паўлам Севярынцам. У той час пратэстоўцы ўжо разыходзіліся, піша «Прававая ініцыятыва».

На судзе Грыб сказаў, што суды над удзельнікамі акцый за незалежнасць нагадваюць яму трыццатыя гады, і цяпер судзяць усіх людзей, якім неабыякавая Беларусь.

Ян Грыб быў лётчыкам вайсковай авіяцыі на Далёкім Усходзе. Камісаваны па стане здароўя, прыехаў у Мінск. Скончыў фізічны факультэт БДУ, працаваў выкладчыкам у розных вучэльнях, з якіх яго неаднаразова звальнялі за дэмакратычныя погляды.

А тым часам суды над удзельнікамі акцый у абарону незалежнасці працягваюцца па ўсёй Беларусі. Шмат каму прысуджаюць вялікія штрафы, а некаторыя атрымліваюць новыя суткі. Блогеру з Оршы Змітру Казлову («Шэры кот») далі ўжо трэці 15-сутачны тэрмін.



## Міхаіл Фінберг

**Кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі трапіў у бальніцу. Раней паведамлялася, што яго шпіталізавалі з-за праблемаў з сэрцам.**

Аказваецца, у Фінберга рэзка павялічыўся цукар у крыві. «У мяне не сэрца, а менавіта цукар. Гэта такая страшная хвароба — цукровы дыябет», — распавёў творца. «Мне трэба было зрабіць укол, я хацеў падысці да тэлефона, патэлефанаваць чалавеку, які мне можа дапамагчы. Але не хапіла сіл ухлючыць тэлефон. Добра, што мяне наша працаўніца на вуліцы чакала. Дзверы адчынілі работнікі МНС, і мяне даставілі ў бальніцу», — расказаў ён.

Зараз свой стан здароўя музыка ацэньвае на «выдатна». «Мы пачынаем рабіць праграму да 80-годдзя Уладзіміра Караткевіча. Я блізка быў знаёмы з Караткевічам, дапамагаў яму, калі ён моцна хварэў. І ён любіў мяне, падтрымліваў. Ён мяне шмат чаму навучыў, у тым ліку і беларускай мове. Ён папраўляў мяне на кожным слове, выпраўляў памылкі. Мне ад яго перадалася вялікая любоў да ўсяго беларускага. У маім аркестры, дарэчы, усё справаводства вядзецца на беларускай мове. З першага дня работы! Ніхто пра гэта не кажа, але ведаю, што гэта зрабіў!» — зазначае Фінберг.

«Знайдзіце час, прыйдзіце, паслухайце — будзеце плакаць!» — абяцае ён.

Дзіяна СЕРАДЗЮК

# Школа павінна фарміраваць эліту

**Беларусь упершыню паўдзельнічала ў аўтарытэтным міжнародным даследаванні ўзроўню сярэдняй адукацыі PISA-2018. Яго вынікі былі прэзентаваны 3 снежня 2019 года, і Міністэрства адукацыі паспела назваць іх «вышэйшымі за сярэднія». Але ці сапраўды гэта так?**




## Што такое PISA

Мэта Міжнароднай праграмы па ацэнцы адукацыйных дасягненняў навучэнцаў (англ. Programme for International Student Assessment, PISA) — ацэнка і параўнанне нацыянальных адукацыйных сістэмаў у краінах-удзельніцах. У рамках даследавання ацэньваюцца веды і ўменні, якія набываюць 15-гадовыя падлеткі да моманту заканчэння базавай школы, з пункту гледжання вырашэння шырокага дыяпазону жыццёвых задач у розных сферах.

Заказчыкам даследавання з'яўляецца Арганізацыя эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця (АЭСР) у кансорцыуме з вядучымі міжнароднымі навуковымі арганізацыямі, пры ўдзеле нацыянальных цэнтраў. Даследаванне праводзіцца з 2000 года з перыядычнасцю раз на тры гады.

Па выніках PISA-2018 Беларусь заняла агульнае 36-е месца з 79 краін. Разам з тым нашыя вучні набралі ніжэйшы за сярэдні паказчык АЭСР у галіне чытання, матэматыкі і прыродазнаўства. Чытацкая пісьменнасць стала асноўным напрамкам даследавання PISA у 2018 годзе. Па ім навучэнцы з Беларусі набралі 474 балы.

## Беларускіх вучняў падцягвалі на вынік

Вынікі даследавання паспрабавала асэнсаваць экспертная супольнасць падчас круглага стала, арганізаванага Таварыствам беларускай школы з удзелам Сусветнага банка і EdcampBelarus.

Эксперты кажуць: дадзеныя PISA — нагода задумацца і паглядзець, дзе ў нас ёсць правалы. Калі на сярэдніх узроўнях наша краіна выглядае больш-менш някепска, то па самых высокіх 5 і 6 узроўнях — вялікія пытанні. Гэтыя заданні выканалі толькі 4 працэнты беларускіх вучняў. Найлепшыя вынікі паказалі ліцэісты і гімназісты.

Мадэратарка круглага стала Тамара Мацкевіч з Таварыства беларускай школы падкрэслівае: у PISA даследуюцца не кампетэнцыі, а тое, наколькі праз іх вучні гатовыя да выклікаў сучаснага грамадства, а таксама якасць сістэмы адукацыі.

Павел Фунцікаў з Сусветнага банку адзначыў, што беларускія школьнікі паказалі лепшыя вынікі, чым іх аднагодкі ў краінах Еўропы і Цэнтральнай Азіі з аналагічным даходам. Але Беларусь адстае ў параўнанні з развітымі краінамі Еўропы, ЗША, некаторымі краінамі Лацінскай Амерыкі.

Сацыяльна-эканамічны статус Беларусі вельмі моцна адлюстроўваецца на паспяховасці дзяцей: вучні з сем'яў з лепшым сацыяльна-эканамічным становішчам паказваюць лепшыя вынікі. Гэтак жа ў гарадскіх школах вынікі аказаліся лепшымі, чым у вясковых. Таксама больш высокія вынікі паказалі дзяўчынкі, чым хлопчыкі.

Паводле вынікаў даследавання, Сусветны банк склаў шэраг рэкамендацый для беларускай адукацыйнай сістэмы. Па-першае, неабходна прыярэтызаваць роўнасць паміж рэгіёнамі, гарадскімі і сельскімі ўмовамі і сацыяльна-эканамічнымі групамі, павялічыўшы ўключанасць уразлівых груп насельніцтва і знізіўшы сегрэгацыю школьнікаў. Па-другое, варта пашыраць доступ і праводзіць далейшае паляпшэнне якасці дашкольнай адукацыі для ўсіх вучняў, асабліва з уразлівых груп. І, нарэшце, трэба ўмацаваць выкарыстанне дадзеных ацэнкі якасці і праводзіць доказную адукацыйную палітыку.

«У Беларусі была іншая мэта правядзення даследавання, чым у астатніх краінах. Настаўнікі і вучні ў школах ведалі, што ў іх будзе даследаванне. Доўгі час з імі займаліся па вечарах і "падцягвалі" на вынікі. Таму, калі ў дэмакратычных краінах мэта PISA — зрабіць зрэз дадзеных для аналізу, то ў Беларусі імкнуліся менавіта паказаць найлепшы вынік», — зазначыла Тамара Мацкевіч.

## З якога боку мы «сярэдненькія»?

Кандыдат педагагічных навук Кацярына Куксо ў сваім выступе ўзняла пытанне таго, што сярод беларускіх школьнікаў амаль няма «адукацыйнай эліты», якая можа выканаць заданні вышэйшых 5 і 6 узроўняў.

«Калі ў нас курс на сацыяльную роўнасць, мы адмяняем гімназіі, то што мы можам прапанаваць такім дзецям?» — задаецца пытаннем даследчыца.

Таксама яна звярнула ўвагу на тое, што роўнасць у адукацыйным працэсе — не ёсць «ўраўнілаўка». Паводле яе словаў, у беларускай сістэме адукацыі ўсе «сярэдненькія», але разам з тым існуе высокі ўзровень сегрэгацыі.

Дарэчы, даследаванне паказвае, што выніковасць і эфектыўнасць сістэмы адукацыі наўпрост залежыць ад інвестыцый у яе. Калі для Беларусі гэта каля 50 тысяч долараў у сярэднім на аднаго вучня за ўвесь перыяд навучання, то сярэдні паказчык па АЭСР — каля 90 тысяч.

Між тым неабыякавы бацька Дзмітрый Івановіч высветліў, што насамрэч у рэйтынгу АЭСР Беларусь знаходзіцца ніжэй за сярэдні вынік. Чаму тады Міністэрства адукацыі адрапартавала адваротнае? Адказ просты: калі ўлічыць краіны, якія не ўваходзяць у АЭСР, у тым ліку афрыканскія, то Беларусь, сапраўды, знаходзіцца ў рэйтынгу крыху вышэй за сярэдні ўзровень.

Агулам Беларусь істотна адстае не толькі ад такіх лідараў, як Кітай, Паўднёвая Карэя, Японія і Эстонія, але і ад блізкіх Расіі і Польшчы. На некалькі пунктаў ніжэй за нас з суседзяў у рэйтынгу аказалася хіба Украіна, якая таксама ўпершыню ўдзельнічала ў PISA ў 2018 годзе.

## Балючыя кропкі беларускай адукацыі

На думку выкладчыка, перакладчыка і літаратара Лявона Баршчэўскага, апошнім часам абвастрылася праблема разумення тэксту. Рэзкае абмежаванне літаратурных дысцыплін і якасці тэкстаў уплываюць на тое, што сучасныя дзеці не ўспрымаюць тэксты з лексікай высокага ўзроўню. Апроч таго ў вучняў 13–15 гадоў падае ўменне чытання тэкстаў уголас.

З іншага боку, цяпер дзякуючы інтэрнэту дзеці ствараюць значна больш тэкстаў, чым раней. Але кампетэнцыя на гэтым не павышаецца.

Каб вырашыць гэтую праблему, неабходная капітальная рэформа філалагічнага кампанента адукацыі. Асноўная ўвага павінна быць накіраваная не на тое, каб пісаць правільна, а на крэатыўнае стварэнне і разуменне тэксту.

Эксперт Грамадскага Балонскага камітэта прафесар Уладзімір Дунаеў зазначыў, што адукацыйная палітыка — гэта баланс трох складнікаў: якасці, даступнасці і кошту. Калі грошай няма, даводзіцца ахвяраваць альбо якасцю, альбо даступнасцю. Але Беларусь узяла на сябе яшчэ адно абавязальніцтва: забяспечыць інклюзіўнасць адукацыі на ўсіх узроўнях. Аднак цяпер, напрыклад, колькасць выпускнікоў сельскіх школ сярод студэнтаў утрая ніжэйшая, чым агульная іх колькасць. Хто гэтыя маладыя людзі з сельскай мясцовасці, якія не могуць трапіць у вышэйшую школу? Каля 90% школьнікаў у вёсках навучаецца на беларускай мове. Такім чынам, маем не толькі дыскрымінацыю сельскай моладзі, але яшчэ і дыскрымінацыю паводле моўнай прыкметы.

Таксама Уладзімір Дунаеў зазначае, што за апошнія гады скарацілася доля студэнтаў з інваліднасцю і сірот. Паводле яго, ніводзін дакумент не рэгулюе адукацыйную палітыку ў Беларусі. Адзіны суб'ект, які вызначае гэтую палітыку, — кіраўнік дзяржавы.

Мінадукацыі выдала Канцэптуальныя напрамкі развіцця адукацыі да 2030 года. Пры гэтым ніводнай задачы, якая была б прысвечаная роўнаму доступу да вышэйшай адукацыі, там няма. Атрымліваецца, для беларускай дзяржавы сацыяльнага вымярэння ў сістэме адукацыі проста не існуе, кажа прафесар Дунаеў.

«Мы маем справу з экстрэмальна несправядлівай сістэмай адукацыі. Сацыяльная несправядлівасць — характэрная рыса беларускай сістэмы адукацыі. І калі мы хочам нешта змяніць, трэба ўлічваць гэтую велізэзную хібу», — падсумаваў эксперт.

Даследаванне PISA выявіла і шэраг іншых праблем беларускай адукацыі. Так, у параўнанні з многімі краінамі, у беларускіх школах сустракаецца менш праяваў булінгу і лепшая дысцыпліна, але разам з тым і менш кааперацыі і канкурэнцыі. І калі ў краінах АЭСР 63% вучняў маюць мысленне, якое развіваецца, то ў Беларусі гэта толькі 55%. То-бок, 45% 15-гадовых дзяцей у нашай краіне перакананыя, што яны не могуць паўплываць на карціну навакольнага свету.

## Што рабіць?

Прадстаўнік Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча Павел Церашковіч прызнаўся, што чакаў нашмат горшых вынікаў PISA. Ён звярнуў увагу на такі паказчык, як школьныя вакацыі, якія засталіся нам у спадчыну ад савецкай школы, а тая пераняла яе ад школы часоў Расійскай імперыі. Напрыклад, восеньскія канікулы ў свой час былі неабходнымі, таму што праз бездарожжа вучні нярэдка не маглі дабрацца да школ. А летам, у час пасеву і збору ўраджаю, школьнікі мінулых стагоддзяў былі занятыя на бацькоўскіх палетках. Але калі паглядзець на лідараў PISA, становіцца зразумела, што гэта краіны з надзвычай інтэнсіўнай адукацыяй, якія не маюць такой раскошы, як тры месяцы летніх вакацый.

Прафесар Мікалай Запрудскі з Акадэміі паслядыпломнай адукацыі перакананы, што сучасныя вучэбныя праграмы моцна перагружаныя, таму проста не застаецца часу на выкананне дзецьмі кампетэнтасна арыентаваных заданняў. А яны неабходныя для таго, каб дзеці ўмелі прымяняць тэарэтычныя веды на практыцы.

«Увесь свет пераходзіць на змяшанае навучанне, адзін з варыянтаў — перакулены ўрок, калі дзеці самастойна дома чытаюць параграф ці глядзяць ролік, а потым на ўроку абмяркоўваюць прачытанае ці ўбачанае», — прапанаваў альтэрнатыву прафесар.

Яго калега Алена Радзевіч лічыць, што трэба змяніць адукацыйную філасофію выкладання, каб ацэньваць перадусім не веды, а ўзровень разумення і крытычнага мыслення. І пачынаць гэтую працу трэба з падрыхтоўкі педагогаў.

«Калі педагогам усё спускаюць зверху, навошта думаць над мэтай урока, калі яна ўжо напісаная? Некаторым настаўнікам гэта зручна», — міркуе яна.

Таксама варта было б разгрузіць настаўнікаў, зняць з іх абавязкі па выхаванні дзяцей па-за школай, адмяніць рэйтынгі.

«Дзяржава бярэ на сябе функцыю фарміравання такіх грамадзян, якія ёй патрэбныя. А ёй не трэба людзі з крытычным мысленнем, адказныя, з нацыянальнымі каштоўнасцямі і ідэалогіяй, адрознай ад той, якая ім прапаноўваецца. Гэтую сістэму трэба ламаць і ўводзіць механізм, каб грамадства, бацькі, студэнты, працадаўцы маглі ўплываць на фарміраванне адукацыі. Школа павінна фарміраваць эліту. Толькі ад 3 да 7% вучняў у Беларусі здольныя ўжываць веды на практыцы. Навошта мы вучым астатніх?» — задаецца пытаннем Тамара Мацкевіч.

Яна нагадала, што якасць школ не бывае лепшай за якасць настаўнікаў. А пакуль што, як сведчыць даследаванне PISA, нашы настаўнікі, паводле сваёй кваліфікацыі, паказваюць ажно другі вынік з канца.

# Чытайце разам кнігі і не карайце пазбаўленнем інтэрнэту

Таццяна ГОВАР

**Раней прыкметай добрага тону лічылася мець дома шмат кніг, сёння — наяўнасць розных дэвайсаў і гаджэтаў: ноўтбукі, планшэты, смартфоны, розныя прыстасаванні, якія дазваляюць пашырыць магчымасці асноўных прыладаў або якія даюць магчымасць выкарыстоўваць гэтыя прылады ў новай якасці.**

Сёння тата купляе дзіцяці мабільны тэлефон не толькі для таго, каб тое магло звязацца з бацькамі ў патрэбны момант, а яшчэ і для таго, каб дзіця не сумавала, і яму было чым заняцца ў вольны час. А таксама для таго, каб было чым маніпуляваць і караць за дрэнныя ўчынкі або адзнакі.

Да мяне на кансультацыі часта прыходзяць бацькі, дзеці якіх не зусім паспяховыя ў вучобе. Асабліва пасля таго, як паспяховасць значна пагоршылася, прыходзіць устрывожаная маці: «Ратуйце! Дзіця зусім адбілася, не слухаецца, урокі вучыць не хоча!» Задаю пытанне: «А чым тады яно займаецца?» — «Увесь час сядзіць у планшэце ці тэлефоне!»

Узнікае слушнае пытанне: «А што вы робіце ў той час, калі дзіця сядзіць у тэлефоне, а не выконвае хатнія заданні?» Часцей за ўсё, адказ такі — займаюся хатнімі справамі. Сучасныя бацькі — вельмі занятыя людзі. Адпрацаваўшы на вытворчасці або ў офісе, бацькі вяртаюцца дадому, і ім трэба яшчэ шмат чаго паспець зрабіць. У гэтай сітуацыі, каб дзеці не сумавалі, ім падсоўваюць мабільныя прылады, якія могуць хутка зрабіць жыццё малых цікавым. Хочаш — пагуляй у што-небудзь, хочаш — пачытай, хочаш — паглядзі мультфільм ці відэа стромкага ютубера, які мае мільёны падпісчыкаў. Мноства забаў! Галоўнае — не блытацца пад нагамі і сядзець ціха.

Атрымліваецца, што мы самі прывучаем дзяцей да гаджэтаў і дэвайсаў. Сёння бацькам больш выгадна, каб дзеці знаходзіліся дома, — так за іх менш перажываеш. Ніхто не прычыніць ім зла. Прайшоў той час, калі дзеці гулялі на вуліцы, вучыліся выбудоўваць адносіны з навакольнымі, развіваліся фізічна, будучы пастаянна ў руху. І нікому не прыходзіла ў галаву адказаць на пытанне: «Чым займаешся?» — «Сяджу ў тэлевізары або ў кнігах».

Сённяшнія дзеці таксама гуляюць, але ўжо ў іншыя гульні. Яны таксама маюць зносіны з аднагодкамі, але ўжо інакш, не так, як мы гэта рабілі раней. Для майго дзяцінства найбольшым пакараннем было сядзець дома і не гуляць з сябрамі. Змяніліся ўмовы, а пакаранне засталося тым жа. Цяпер бацькі забіраюць мабільныя прылады і абразаюць сувязь са светам. Асабліва жорсткім такое пакаранне лічыцца ў падлеткаў.



Мне давялося працаваць з адной чатырнаццацігадовай дзяўчынкай, якая ненавідзіць сваіх бацькоў. У яе адна мара: хутчэй скончыць 9 класаў і з'ехаць куды-небудзь вучыцца ў іншы горад, далей ад бацькоў. А яшчэ лепш — на Камчатку, каб не бачыць родных і пазбавіцца ад іх дробязнай апекі. Як вы думаеце, чаму? Аказваецца, бацькі забараняюць хадзіць на вуліцу з сябрамі, забіраюць мабільны тэлефон і адключаюць інтэрнэт! Гэта пазбаўляе яе магчымасці мець зносіны з сябрамі. Дзяўчынка — экстраверт, для яе зносіны — сэнс жыцця. Дый у гэтым узросце вядучай дзейнасцю з'яўляецца не вучоба, а стасункі з аднагодкамі. Праблема — невысокія адзнакі ў школе. Не, яна не двоечніца. Проста вучыцца на тым узроўні, як хочуць бацькі, дзяўчынка не можа. Але затое яна — выдатны валанцёр, ходзіць у тэатральны гурток, займаецца грамадскай дзейнасцю.

Вядома, бацькі павінны кантраляваць сваё дзіця, павінны яго накіроўваць. Але пытанне, якім коштам?

Сёння адзін з дзейсных сродкаў уздзеяння на дзяцей — пазбаўленне мабільнага тэлефона і магчымасці карыстання інтэрнэтам. Для падлетка гэта тое самае, што адключыць святло ва ўсім доме — сумна і страшна.

Навошта мы купляем дарагія мабільныя тэлефоны, планшэты, ноўтбукі, а потым з імі змагаемся? Мы ж не купляем кнопкавы Nokia, у якім адна функцыя — патэлефанаваць або прыняць званок. Мы купляем айфоны, смартфоны. Мы жывем у свеце вытворцаў і спажыўцоў тавараў. Вытворцы робяць усё магчымае, каб іх тавары раскупляліся. Маркетолагі часта ўздзейнічаюць на пачуцці бацькоў праз дзяцей. У падсвядомасці ўсіх нармальных бацькоў жыве думка: «Я павінен даць сваім дзецям усё самае лепшае, чаго не было ў мяне. Я павінен зрабіць сваіх дзяцей шчаслівымі». Рэклама ўздзейнічае на бацькоў: «Каб вашы дзеці былі шчаслівыя, купіце новы мабільны!» І бацькі бяруць крэдыты, купляюць новыя тэлефоны, каб дзіця было «не горш за іншых». А потым забіраюць дарагую цацку, пазбаўляючы радасці.

У школах зараз таксама забараняюць карыстацца мабільнымі прыладамі — маўляў, дзеці перасталі засвойваць і запамінаць інфармацыю, а толькі спісваюць з рашальнікаў. А яшчэ адцягваюць увагу на розныя паведамленні ў тэлефоне, або, чаго добрага, збіраюць кампрамат на настаўнікаў.

З усіх бакоў праблемы. Усе прылады аб зямлю, далоў шкоднікаў! Што будзем рабіць? Павернем прагрэс у адваротны бок? Жылі ж тысячы гадоў без гэтага! Ці прыстасуемся і зробім гэта карысным для сябе і дзяцей?



Я думаю, цяпер немагчыма (дый не трэба) знішчаць дэвайсы і адключаць інтэрнэт. Важна знайсці ім правільнае прымяненне ў адукацыі і ў выхаванні дзяцей. А для гэтага не планшэт і не тэлефон павінен сядзець з дзіцём замест бацькоў, а бацькі павінны навучаць і выхоўваць сваіх дзяцей. Ні адна мабільная прылада не навучыць дзіця мець зносіны. Зносінам дзіця вучыцца ў сваіх бацькоў, яно пераймае іх.

Пасадзіўшы дзіця за камп'ютар або даўшы яму ў рукі тэлефон, мы даем магчымасць хутка атрымліваць задавальненне. А потым думаем, што, калі трэба, націснем на кнопку «выключыць» — і дзіця адразу павернецца да нас і падзякуе за гэта. Не, паважаныя бацькі, вельмі цяжка выйсці са стану, у якім атрымліваеш задавальненне. Знаходзячыся перад маніторам або экранам тэлевізара, мы атрымліваем гармон задавальнення без асаблівага напружання. У гэты момант наш мозг выпрацоўвае дафаміны — нейрамедыятары, прызначэнне якіх — здымаць стрэс і боль. Тут і дарослыя не могуць выстаяць, а дзеці — тым больш. Калі мы выключаем гаджэт дзіцяці хутка і без папярэджання, узровень дафаміну ў дзіцяці рэзка падае, што можа выклікаць нават адчуванне болю. Гэты гарманальны спад і звязаны з ім фізіялагічны дыскамфорт — той самы момант, калі ў дзіцяці пачынаецца істэрыка. Гэта вельмі балючы момант. Таму не раю злоўжываць такімі метадамі барацьбы з гаджэтамі.

Спачатку трэба адцягнуць дзіця ад віртуальнага свету і вярнуць яго ў свет рэальны. Для гэтага трэба пэўны час пабыць побач з дзіцём, паглядзець з ім фільм, пагуляцца. Хопіць некалькіх хвілін, каб далучыцца. Задайце шэраг пытанняў: «Што глядзіш? На якім узроўні гуляеш? Што гэта за персанаж?» і гэтак далей. Як толькі дзіцяці пачынае адказваць вам, яно паступова вяртаецца ў рэальны свет. Дафамін не падае рэзка, бо вы пабудавалі мост паміж віртуальным і рэальным светам.

У гэты момант і можна сказаць, што настаў час вячэраць, рабіць урокі, ці проста нагадаць, што час карыстання гаджэтам скончыўся. Вы зрабілі гэта мякка, і дзіця будзе ў стане вас слухаць і рэагаваць на просьбы. А яшчэ яно можа ўзрадавацца, што маці ці тата звярнулі на яго ўвагу, падзялілі яго захапленне.

І яшчэ. Нашым дзецям давядзецца жыць не ў віртуальным свеце, а ў рэальным. У ім трэба мець зносіны з людзьмі, працаваць, а не забаўляцца ўвесь час. І наша задача — навучыць іх сябе абслугоўваць, арганізоўваць сваю прастору, умець адкладаць задавальненне патрэбаў на потым, навучыць крытычна ацэньваць інфармацыю, якую яны атрымліваюць. У дарослым жыцці больш прыйдзецца рабіць таго, што трэба, а не таго, што хочаш. Калі дзіця хоча стаць студэнтам, яму неабходна вучыцца. Калі хоча быць футбалістам, неабходна трэніравацца кожны дзень. Нягледзячы на тое, што гэта не так лёгка і весела, як хацелася б.

Дзеці павінны ведаць межы дазволенага і заслугоўваць жаданага добрымі справамі. Думайце пра тое, што добра для дзяцей, а не пра тое, чаго яны хочуць ці не хочуць. Пазней яны скажуць вам дзякуй за гэта. Ім неабходна гуляць на вуліцы і класціся спаць своечасова, каб на наступны дзень прыйсці ў школу гатовымі вучыцца. Абмяжуйце доступ да гаджэтаў і аднавіце эмацыйную блізкасць з дзецьмі. Гуляйце з імі ў гульні — лепш у настольныя, ладзьце сямейныя вячэры, разам чытайце кнігі ці глядзіце і абмяркоўвайце фільмы, разам выпраўляйцеся на шпацыр на роварах, разам выконвайце абавязкі па хаце. Навучыце сваё дзіця выконваць манатонную працу з ранняга ўзросту, паколькі гэта — аснова для будучай працаздольнасці.

І самае галоўнае — любіце сваіх дзяцей такімі, якія яны ёсць.

# «Актывізму без рэпрэсій не бывае»

Мікалай ДЗЯДОК

**Анастасіі Кухта — 27 гадоў. Яркая дзяўчына з татуіроўкамі не надта адрозніваецца ад маладзёнаў, што ходзяць па вуліцах Мінска. У падлеткавым узросце яна патрапіла ў — як кажуць — «кепскую кампанію», якая сфарміравала яе погляды і каштоўнасці. Дзяўчыну неаднаразова судзілі, двойчы яна бывала на сутках. Яна — анархістка.**

Цяпер Анастасія працуе ў салоне прыгажосці і малюе. Выхоўвае хатніх гадаванцаў і займаецца самаадукацыяй. Аднак так і засталася ў «кепскай кампаніі». Мы спыталі ў дзяўчыны, як яна патрапіла ў адну з самых крыміналізаваных дзяржавай груп насельніцтва.

— Мой прыход у анархісцкі рух адбываўся прыкладна ў 2008–2009 гадах. Я спачатку пазнаёмілася з панк-хардкор культурай, трапіла ў субкультурнае асяроддзе, дзе пазнаёмілася з рознымі цікавымі людзьмі. Хадзіла на канцэрты, зацікавілася антыфашызмам, патрапіла да футбольных фанатаў, а далей я стала знаёміцца з анархісцкай ідэалогіяй. Потым на маім жыццёвым шляху патрапіліся юнакі-анархісты, і дзякуючы ім я пазнаёмілася з анархізмам яшчэ бліжэй, пачала чытаць літаратуру — і зразумела, што мне гэта вельмі блізка.



У анархісцкай супольнасці кожны чалавек мае сваю вагу, мае голас, а ўсе рашэнні прымаюцца калектыўна. І мяне вельмі прывабіла тое, што ўнутры нашага руху вялізарная ўвага надаецца такім рэчам, як узаемадапамога, салідарнасць, павага адзін да аднаго. Тут людзі, якія здольныя ахвяраваць сабой дзеля іншых і дзеля пастаўленай мэты, цэняць свабоду і камфорт адзін аднаго. А ў іерархічных сістэмах такога няма: той, хто мае ўладу, — ён і мае ўсё, а астатнія мусяць маўчаць.

Мяне абурае тое, як у грамадстве размяркоўваюцца рэсурсы. Чыноўнікі і іншыя людзі ва ўладзе маюць больш матэрыяльных даброт аў, чым іншыя, хаця іншыя прыкладаюць больш высілкаў, каб атрымаць гэты свой мізэр. Многія людзі фактычна жабруюць.

Мне падаецца, амаль кожны беларус сутыкаўся і з міліцэйскім свавольлем. Ледзь не штодзень у СМІ з'яўляюцца навіны аб гвалтоўных дзеяннях міліцыянтаў. І я ўпэўненая, што толькі невялікая частка інфармацыі даходзіць да публікацыі.

# «Выбранецкія шыхты»: чым займалася амаль

Настасся ПАНКРАТАВА

**Дзесяцігоддзе з сярэдзіны 1980-х было неверагодна багатым на ўзнікненне разнастайных асветніцкіх моладзевых суполак. Большасць з іх узрастала са студэнцкіх лаваў, аднак знакамітыя «Выбранецкія шыхты» сталі аднымі з першых, хто распачаў сваю дзейнасць, не прывязваючыся да пэўнай навучальнай установы. Але пра самую вялікую рэспубліканскую арганізацыю пачатку 1990-х гадоў сёння амаль няма звестак.**



Мінскі актыў РМА «Выбранецкія шыхты» каля Беларускай хаткі на вул. Рабкораўскай. 1992 год

## Рэктар прыслухоўваўся да студэнтаў

У перабудову ў беларускіх ВНУ шчыравалі моцныя культурніцка-асветніцкія моладзевыя суполкі. Студэнты раптам адчулі, што акрамя ўніфікаваных вучэбных праграмаў існуюць людзі, якія могуць распавесці ўнікальныя факты пра беларусаў, беларускую мову і гісторыю. Аб'яднанні раслі, бы грыбы, менавіта з патрэбы даведацца пра сваё карані. Дый моладзь не толькі дзялілася ў тых суполках этнаграфічнымі вышукамі, бабульчынымі песнямі і танцамі. Суполкі дамагаліся, каб кіраўніцтва інстытутаў дазволіла прымаць экзамены, пісаць дыпломы ці чытаць лекцыі па-беларуску — і гэта ў часы рускамоўнай адукацыйнай завядзёнкі.

Дырэктар выдавецтва «Кнігазбор» Генадзь Вінярскі распавядаў, як напрыканцы 1980-х гадоў суполка «Радзіма» на геафаку БДУ дабілася, каб факультэт упершыню за паўстагоддзе набраў першакурснікаў у беларускамоўную групу. У тэхналагічным інстытуце чальцы аб'яднання «Світанак» пацягу «перацягвалі» на свой бок выкладчыкаў. І калі тыя выказвалі жаданне чытаць лекцыі па-беларуску, рэктар падтрымліваў памкненне.

«За акном яшчэ панаваў Савецкі Саюз, а на вечарыне, арганізаванай "Світанкам", слухалі вершы Анатоля Сыса і ўсёй талакой спявалі "Пагоню". Вы б бачылі, як у той момант разгубіліся сакратар камсамолу і сакратар парткама інстытута, што прысутнічалі ў зале», — усміхаецца адзін з тагачасных актывістаў суполкі, сённяшні бізнесовец Георгій (Франак) Швайбовіч.

Адна складанасць — аб'яднанні ўзнікалі ў студэнцкім асяроддзі, і як толькі іх касцяк заканчваў навучанне, развальваліся. «Выбранецкія шыхты» не залежалі ад месца вучобы, і на старце яны мелі больш шанцаў на шматгадовае існаванне.

## Экзатычная назва

Арганізацый з такімі незвычайнымі назвамі ў той час не было, таму «Выбранецкія шыхты» адразу былі на слыху ў Мінюсце, выканкамах, падатковых органах, банках і іншых установах.

Назву прапанаваў гісторык Анатоль Грыцкевіч, а іншыя варыянты і не разглядаліся. Выбранецкія шыхты — дробная шляхта, што ў XVII стагоддзі панавала на Случчыне. Яна была часткай войска Рэчы Паспалітай. На Случчыне існавалі цэлыя выбранецкія вёскі, якія мусілі першымі мабілізавацца пры любой пагрозе.

Па ўспамінах выбранцаў XX стагоддзя, іх таксама аб'ядноўвала жаданне навучыцца пастаяць за сябе і прага абараняць маладую краіну. Дзеля гэтага яны ладзілі не толькі спартовыя лагеры, каб нарошчваць мускулы, а яшчэ этнаграфічныя экспедыцыі і культурныя мерапрыемствы, каб даведацца больш пра свае карані.

## Ахоўвалі незалежных дэпутатаў і вулічныя акцыі

У 1990 годзе «Світанак» (суполка ў тэхналагічным інстытуце, якую заснаваў у другой палове 1980-х Алесь Гуркоў) ужо натуральным чынам адграаў сваё, выпускнікам жа лесагаспадарчага факультэта Ігару Міхно і Франку Швайбовічу хацелася працягнуць культурніцкую дзейнасць. Так, літаральна з сяброўскіх размоваў, узніклі «Выбранецкія шыхты» — афіцыйна зарэгістраваная рэспубліканская моладзевая арганізацыя. На чале стаў Ігар Міхно. Сярод намеснікаў — Франак Швайбовіч. За эканамічны сектар адказваў сын вядомага перакладчыка Васіля Сёмухі Сяргей. Сваёй мэтай выбранцы называлі культурна-асветніцкую дзейнасць і абавязковую фізічную загартоўку чальцоў.

«Апошняе мне было надзвычай даспадобы, — кажа Франак. — Сам я — былы спартовец, кандыдат у майстры спорту па веславанні. Таму мне заўсёды былі цікавыя не толькі культурніцкія справы, але і фізкультура. У маладосці хацелася навучыцца пастаяць за сябе».

Адразу ж для юнакоў арганізавалі трэніроўкі па ўсходніх адзінаборствах. У расклад абавязковых мерапрыемстваў упісалі пешыя паходы, спартовыя лагеры з элементамі гонак на выжыванне. Не дзіва, што фізічна падрыхтаваных хлопцаў нярэдка клікалі ахоўваць з'езды БНФ, сачыць за парадкам на вулічных акцыях.

Па словах Швайбовіча, у дні жнівеньскага путчу 1991 года менавіта выбранцы арганізоўвалі ўнутраную ахову апазіцыйных дэпутатаў Вярхоўнага Савета падчас мітынгаў на плошчы. Тады ж яны сарвалі прасавецкі мітынг Уладзіміра Жырыноўскага.

«Яго выступ скончыўся, так і не распачаўшыся. Выбранцы пастроіліся клінам, рассеклі натоўп, а пасля асобныя групкі павыціскалі з плошчы. Уладзімір Вольфавіч шалеў, хаяў нас, аднак быў вымушаны ўрэшце вярнуцца ў гатэль», — расказвае Швайбовіч.

## Па мясцінах Каліноўскага

Да 1992 года «Выбранецкія шыхты» займелі адмысловы сцяг, на якім гарэлі старажытнабеларускія рунічныя знакі, набылі форму. Выбранцаў запрашалі не толькі ахоўваць масавыя мерапрыемствы ў Мінску, але клікалі ў рэгіёны — напрыклад, у Віцебску яны ахоўвалі апазіцыйнага палітыка Мікалая Статкевіча. У арганізацыі пачалі з'яўляцца філіі. Гомельскае аб'яднанне «Талака», якім у той час кіраваў Зміцер Сасноўскі, стала філіяй «Шыхтоў».

«Дарэчы, у "Шыхты" я ўладкаваўся з сапраўднай працоўнай кніжкай акурат пасля атрымання дыплому. Мяне адразу ўзялі ў радцы — намеснікі камандан та Міхно. Ускладі дзве задачы:



У мястэчку Семежава на святкаванні ўгодак Слуцкага збройнага чыну

Ну і, канешне, судовая сістэма: калі справа палітычная, альбо ў ёй замяшаныя чыноўнікі ці міліцыянты, то чакаць апраўдання альбо спадзявацца, што праўда пераможа, не даводзіцца. Не магу згадаць ніводнага выпадку, калі б быў вынесены апраўдальны прысуд па палітычнай справе.

***— Цябе таксама затрымлівалі?***

— Так, 25 сакавіка 2017-га. Тады быў Дзень Волі. А яшчэ акцыі пратэсту з нагоды дэкрэту №3. І я хацела прыняць удзел у іх. Тады я ішла ў калоне анархістаў, і нас затрымалі на падыходзе да той кропкі, дзе мела адбыцца акцыя. Яшчэ добра памятаю час напярэдадні Чэмпіянату свету па хакеі. Тады ўсіх актывістаў проста выкрадалі. Гэта менавіта выкраданне, бо ні твае блізкія, ні родныя некаторы час не могуць цябе знайсці — і ніхто не ведае, дзе ты.

Табе проста заломваць рукі, засоўваюць у аўтамабіль, а потым цябе знаходзяць у ЦІП, караната за тое, што ты нібыта «лаяўся матам».

Тое, што цяпер адбываецца на дзяржаўным узроўні, — несправядліва.

***— Анархісты любяць казаць пра рэвалюцыі. Але людзі баяцца рэвалюцый...***

— Людзей палохаюць перамены. І СМІ пужаюць людзей пераменамі. Зразумела, што ні сёння, ні заўтра, ні, хутчэй за ўсё, праз год, не будзе ніякай рэвалюцыі. Грамадства мусіць быць гатовае для гэтага, бо рэвалюцыю робіць народ. А наша задача — рыхтаваць людзей да пераменаў, ісці ўразрэз з дзяржавай, якая кажа, што гэта дрэнна. Выхад з зоны камфорту дае вялікія перавагі і асобе, і грамадству. Наша задача — адукоўваць людзей і рыхтаваць іх да пераменаў. Быць у руху і быць рухавіком, які наблізіць нас да свабоднага грамадства.

***— Тваё атачэнне — са звычайных людзей, не палітызаваных. Што яны думаюць пра анархістаў?***

— Рознае думаюць. Хтосьці асуджае, хтосьці вельмі пазітыўна настроены. Некаторымі кіруе страх — яны не хочуць мець нічога агульнага ні з анархістамі, ні з палітыкай увогуле, бо баяцца, што іх будуць пераследаваць. Прыклад таму — мае бацькі, якія пастаянна за мяне перажываюць, калі я кудысьці іду. Бо яны ведаюць, што анархістаў прасуюць, даюць суткі, штрафы і гэтак далей. Датычна «абывацеляў» — у большасці, яны, думаю, усё ж рэагуюць станоўча. Зразумела, што яны мяркуюць аб анархістах са сродкаў масавай інфармацыі. Тая карцінка, якая сфарміраваная СМІ, дае не вельмі пазітыўнае ўражанне, нехта думае, што гэта нейкая субкультурная моладзь, якая проста гуляецца, — толькі дай падпаліць білборды альбо размаляваць сцены, і ўсё. Нямногія СМІ кажуць аб канструктыўнай дзейнасці, больш падхопліваюць «гарачыя» навіны.

***— Ты кажаш пра страх звычайных людзей. Але ж і анархісты не жалезныя. Ты сама баішся?***

— Ад пачатку было страшна. Былі моманты панічных атак і сапраўднай паранойі. Ты папросту не ведаеш, куды трапіш і што з табой будуць рабіць. Але больш за ўсё мне страшна не за сябе, а за сяброў, якія трапляюць пад рэпрэсіўнае кола. Страх прысутнічае, але далёка не ў той ступені, як раней. Зараз я лепш разумею, што са мной будзе. І што такое: трапіць на суткі, а можа і на гады, як гэта, калі за табой сочаць. Цяпер я гэта разумею і прымаю. Не бывае актывізму без рэпрэсій — трэба гэта разумець. І цяпер я не настолькі балюча гэта перажываю. Калі раней я моцна перажывала за любога чалавека з руху, якога могуць затрымаць, альбо за звычайнага чалавека з вуліцы, я ледзь не трымцела ад кожнай такой навіны. Цяпер жа я разумею, дзе я, куды прыйшла і чым займаюся. Ужо шмат гадоў я ў руху, і за гэтыя часы сфарміраваўся пэўны імунітэт да наступстваў.

***— А што ты адчуваеш да тых, хто штрафаваў цябе, арыштоўваў, да амапаўцаў-ілжэсведкаў? Некаторыя гараць нянавісцю, некаторыя прабачаюць. А ты?***

— Раней я адчувала да іх нянавісць. Зараз не скажу, што я стаўлюся да іх холадна ці з пазітывам. Хутчэй, гэта негатыў, але не так, што «я вас ненавіджу ўсім сэрцам і душой, я б вас забіла», — такога няма. Нянавісць — як язва, і чым яна мацнейшая, тым больш выядае цябе знутры.

***— Беларуская анархісты прапагандуюць грамадства з народным самакіраваннем. Кім ты сябе бачыш у ім?***

— Перш за ўсё, я была б часткай гэтага грамадства — грамадства, дзе людзі паважаюць адзін аднаго і ставяцца ўважліва. На жаль, цяпер жа не так часта сустракаеш салідарнасць — кожны сам за сябе. Для мяне ж важна, каб людзі не былі абыякавымі і каб дапамагалі адзін аднаму, заставаліся шчырымі адзін перад адным.

А прафесія б мая не змянілася — я б надалей працавала з людзьмі і аказвала ім паслугі.

# невядомая сёння моладзевая арганізацыя

арганізацыйная праца і выбранецкая інфармацыйная служба. Апошняя была афіцыйна зарэгістраваная. Мы падводзілі вынікі ўсіх вандровак і спартова-краязнаўчых лагераў, паведамлялі пра этнаграфічныя даследаванні. На той час усе цэнтральныя газеты былі зацікаўленыя ў нашай інфармацыі», — згадвае Вінярскі.

З навінаў можна было даведацца пра спартова-краязнаўчую вандроўку па Ляхавіцкім і Баранавіцкім раёнах да 130-х угодак Кастуся Каліноўскага. Выбіраліся і ў паход па азёрах і балотах Заходняй Віцебшчыны, праходзілі па 40–50 кіламетраў у дзень. Да такіх мерапрыемстваў часта падключалі студэнтаў з пединстытута і філфаку БДУ.

## Паміж Парэччам і «беларускім» Калінінградам

Выбранцы неаднаразова ўдзельнічалі ў раскопках пад кіраўніцтвам Эдварда Зайкоўскага, арганізоўвалі экспедыцыі на Случчыну, Клеччыну, Ляхавіччыну і ў іншыя рэгіёны. Выязджалі і за межы Беларусі: збіралі беларускія легенды і паданні на Дзвіншчыне і ў Латгаліі (Латвія), танчылі і спявалі народныя песні на кафедры беларусістыкі ў Віленскім універсітэце і ў беларускамоўнай гімназіі, вазілі падручнікі і ўдзельнічалі ў этнаграфічных святах у Калінінградзе, разам са старшынёй тамтэйшага беларускага культурнага таварыства Ігарам Шаховічам распавядалі пра гістарычныя карані беларускага народа.

Не забываліся на асвету і ўнутры краіны. У дзіцячых садках, школах і летніках (найперш у беларускамоўным «Грунвальдзе») ладзілі народныя гульні, песні, танцы для малечы. А маглі наўпрост паехаць, напрыклад, у Парэчча ці Станькава, каб выступіць перад школьнікамі.

«Мы паказвалі, што па-беларуску размаўляюць не толькі "батанікі", але і сучасная моладзь, — усміхаецца Вінярскі. — Памятаю, як радаваліся настаўнікі, калі да школьнікаў прыязджалі спартовыя юнакі: яны былі дзецям бліжэй, чым "класічныя" пісьменнікі, якія падчас сустрэчы з дзятвой віталі недзе ў сваіх сусветах».

Хутка «Шыхты» зарэгістравалі навукова-вытворчую фірму «Ваўкалака», у якой начальнікам стаў Франак Швайбовіч.

«Ваўкалака» займалася не толькі перапродажам харчовых і прамысловых тавараў, а і асветнай, выдавецкай дзейнасцю, — дадае Швайбовіч. — Праз гэтую ўстанову фінансавалі дадатковы наклад зборніка "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны", друк метадычных кніг для выкладчыкаў дзіцячых садкоў і нават зборнікаў народных замоў».

Падчас свайго ўзлёту «Шыхты» (і «Ваўкалака») нават мелі ў Серабранцы шапік, арандаваны ў «Саюздруку». Праз яго прадавалі літаратуру пра беларускую гісторыю, этнаграфію і культуру. Праўда, адмысловая прадукцыя, мякка кажучы, здзіўляла непадрыхтаваных мясцовых, і ў шапіку не аднойчы выбівалі шыбы.

## «Выбранец павінен выконваць як мінімум дзесяць танцаў»

«Шыхты» пачыналі ладзіць маштабныя гарадскія святы ў Лошыцкім парку тады, калі ён быў амаль безгаспадарным. Да імпрэзаў з народнымі скокамі, музыкай і гульнямі далучыліся ініцыятар адраджэння айчыннага рыцарскага руху Арына Вячорка і даследчык этнічнай музычнай традыцыі Тодар Кашкурэвіч.

«Ігар Міхно быў упэўнены, што кожны выбранец павінен выконваць як мінімум дзесяць танцаў, таму нават самыя кастнаногія хлопцы ўпарта вывучалі харэаграфічныя фігуры і малюнкі, — успамінае Вінярскі. — Часцей за ўсё, збіраліся ў філіі музея Максіма Багдановіча на Рабкораўскай. У "Беларускай хатцы" рассоўвалі лавы па сценках, вызвалялі прастору для скокаў, хтосьці браўся



Падчас спартова-краязнаўчай вандроўкі па Заходняй Віцебшчыне. Полацк

за баян — і пачыналася. Часта да "Шыхтоў" прыходзілі дзяўчаты з "Крывічоў" — студэнцкай суполкі педагагічнага інстытута, знаёмыя з іншых суполак. Калі танцы ладзіліся на больш вялікіх пляцоўках, напрыклад, у інстытуце замежных моваў, то ў залу пускалі і публіку з вуліцы».

Новыя танцавальныя фігуры прывозілі з этнаграфічных экспедыцый. Адтуль жа бралі песні — дзяўчаты, якіх таксама было багата сярод выбранцаў, збіраліся на спеўкі. Памкненне да народнай музычнай традыцыі было характэрна для «Крывічоў», адкуль многае перанесла ў «Шыхты» будучая жонка Франка Швайбовіча Святлана. Дарэчы, тыя вечарыны аб'ядналі многіх чальцоў суполкі. Сямейнай парай сталі не толькі Франак і Святлана: сярод аднадумцаў знайшлі сабе жонак Генадзь Вінярскі, Ігар Міхно і іншыя.

## Ад дудароў да «Старога Ольсы»

Паступова суполка атрымала магчымасць займацца асветніцкай дзейнасцю праз Дом літаратара. Акрамя вечароў народных танцаў, на яго сцэне ладзіліся вечарыны памяці рэпрэсаваных паэтаў і пісьменнікаў. А яшчэ — першыя дударскія фэсты.

Ігар Міхно разам з Тодарам Кашкурэвічам занурыліся ў даследаванне аўтэнтычнага фальклору. Фэстам яны імкнуліся аб'яднаць традыцыі дудароў рэгіёну Балтыйскага мора, да якога прылічвалі і Беларусь. У межах маштабнага дзеяння праводзіліся не толькі ўласна канцэрты, але і заняткі з майстрамі, што выраблялі дуды, рэканструкцыі народных абрадаў, міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі этнографаў і фалькларыстаў.

З гэтых фэстаў пачалося адраджэнне беларускага дударскага руху. Для некаторых жа ўдзельнікаў этнамузыка паступова ператварылася ў частку жыцця. Напрыклад, частку цяперашняга фальклорнага гурта GUDA склалі былыя выбранцы. А згаданы кіраўнік гомельскай філіі «Шыхтоў» Зміцер Сасноўскі праз пэўны час заснаваў вядомы гурт сярэднявечнай беларускай музыкі «Стары Ольса».

## «Ён быў адданы справе да мозгу касцей»

Парадаксальна, аднак тое, што прынесла «Шыхтам» славу, у выніку іх і раз'яднала. Спадар Міхно ўсё больш захапляўся ідэямі Сяргея Санько і Тодара Кашкурэвіча, якія на той момант стварылі Цэнтр этнакасмалогіі «Крыўя». З 1993 года дзейнасць суполкі звузілася да фальклорных пошукаў і даследавання дахрысціянскага перыяду гісторыі. Многім выбранцам такі расклад быў ужо нецікавы.

«Ігар у сваёй справе быў сапраўдным фанатам, — дадае Вінярскі. — Ён быў гатовы ночыць у офісе — пакойчыку ў якіх-небудзь пяць "квадратаў". Калі ж нарэшце перабраўся ў кватэру, якую мы з ім здымалі ўдваіх, дык у свой пакой яму не было калі купіць ложак. Ён быў адданы сваёй справе да мозгу касцей і хацеў, каб усе былі такімі. Але моладзь паступова заводзіла сем'і, выбранцы пачыналі шукаць занятак, што прыносіў бы сталы прыбытак».

Другая прычына да паступовага развалу самай вялікай з моладзевых арганізацый таго часу — банальная адсутнасць фінансаў. Тая ж арэнда памяшкання пад офіс каштавала грошай, няхай і невялікіх. Аднак увесь прыбытак, што атрымлівала арганізацыя ад правядзення дударскіх фэстаў ці ад «Ваўкалакі», тут жа да капейкі ўкідвалася ў новы культурніцкі праект. Вінярскі неаднойчы станавіўся трацейскім суддзёй у спрэчках паміж Міхно і Швайбовічам.

«У мяне мысленне больш эканамічнае. Каб задуму раскруціць, трэба нарошчваць абароты, а не выцягваць усе грошы, якія зарабляеш. Мы рабілі вельмі годную справу. Упэўнены, патэнцыял быў значна большым, і выйсці маглі на іншыя гарызонты, каб падыходзілі да фінансавых пытанняў больш абдумана», — тлумачыць падзеі тых дзён Швайбовіч.

Швайбовіч з'ехаў у Барысаў, дзе заняўся ўласным бізнесам. Адышоў ад спраў і Вінярскі. Адзін за адным адшчапіліся іншыя — і легендарная арганізацыя паціху развалілася. Ды так, што інфармацыі пра яе ўжо практычна няма, хаця многія былыя выбранцы ходзяць побач з намі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. Другое прышэсце блізка...

Каталікос-патрыярх Грузіі 12 студзеня ў сваёй традыцыйнай нядзельнай пропаведзі ў кафедральным саборы Тбілісі прадказаў блізкасць другога прышэсця Хрыста і заклікаў прыхаджан падрыхтавацца да гэтай падзеі. «Другое прышэсце вельмі блізка, і мы павінны зрабіць усё для таго, каб падрыхтавацца да яго. Я чуў ад некаторых вернікаў, што гэты час вельмі блізкі, і сказаў бы, што да яго засталося ўсяго некалькі дзён», — заявіў Ілля Другі. Трэба сказаць, што, паводле святых тэкстаў, перад тым, як адбудзецца другое прышэсце Хрыста, уваскрэснуць усе мёртвыя. Душы людзей, якія ўжо памерлі, злучацца са сваімі целамі. Пасля гэтага адбудзецца фінальная бітва Хрыста з Сатаной і падзел на царства Божае і пекла. Цяжка сказаць, дзе Каталікос угледзеў прыкметы падобных з'яваў, але казаць пра другое прышэсце, безумоўна, яго права. Можна таксама дадаць, што 29 снежня 2019 года грузінскі патрыярх на сустрэчы з сакратаром Ватыкану, кардыналам П'етра Паралінам заявіў, што «чалавецтва падышло да краю прорвы».

**Паводле грузінскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Палітычная картаграфія

На Пірынеях — незвычайны скандал праз праблемы з геаграфіяй у лідараў іспанскай партыі Vox. Днямі кіраўніцтва заклікала аднапартыйцаў выйсці да ўсіх муніцыпалітэтаў краіны, трымаючы спецыяльныя плакаты з картай Пірынейскага паўвострава і надпісам «Іспанія жыве!». На гэтай карце ніякай Партугаліі няма, а сама краіна з'яўляецца часткай Іспаніі. Такое няведанне геаграфіі, натуральна, выклікала шмат у каго смех. А вось у Партугаліі знайшліся тыя, хто пабачыў тут замах на тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы. Гэта прадстаўнікі партыі Chega — мясцовага аналагу Vox, — якія патрабавалі ад Мадрыду афіцыйнага прабачэння за тую карту. Адсутнасць такога прабачэння можа, маўляў, выклікаць у партугальцаў комплекс нацыянальнай траўмы. Аднак самым цікавым наступствам гэтай гісторыі стаў рэнесанс старога праекту аб'яднання Партугаліі і Іспаніі ў адзіны Іберыйскі саюз. Цяпер у аматараў праекту новы аргумент. Калі Каталонія далучыцца да Іберыйскага саюза ў якасці асобнага суб'екта, з'явіцца шанец нарэшце вырашыць каталонскае пытанне. Іспанскія дзяржаўнікі ў такім разе будуць святкаваць саюз з Партугаліяй, а каталонскія нацыяналісты — атрыманне статусу амаль незалежнай дзяржавы.

**Паводле іспанскай прэсы**

### РАСІЯ. Паштальён Печкін — вораг народа

Вялікая палітыка дабралася да такога, здавалася, нейтральнага культурнага прадукту, як мультфільм «Прастаквашына». Як вядома, цяпер у Расіі выходзіць рымейк гісторыі пра прыгоды Дзядзькі Фёдара і яго сяброў. Але адзін з герояў мультфільму — паштальён Печкін — нечакана стаў выклікаць у аўдыторыі негатыўныя эмоцыі. Усё праз тое, што ў навагоднім выпуску мультсерыялу Печкін хваліць пенсійную рэформу, дзякуючы якой «памаладзеў». Нагадаем, пенсійная рэформа ў РФ, што набыла моц увосень 2018 года, прывяла да краху рэйтынгаў улады. Паводле апытанняў, яна стала самай негатыўнай падзеяй 2019 года, паколькі павялічвае ўзрост выхаду на пенсію. Не дзіўна, што рэпліку Печкіна ў сацыяльных сетках называюць «няўмелай і неразумнай прапагандысцкай акцыяй». Не падабаецца Печкін і бацькам, якія лічаць, што такая прапаганда арыентаваная на дзяцей. Арганізацыя «Бацькоўскі ўсерасійскі супраціў» наваt выказала афіцыйны пратэст стваральнікам мультфільму. Між тым, многія баяцца, што Печкін працягне піярыць курс ураду і нават мадэлююць яго маналогі ў наступных выпусках. Напрыклад, у кантэксце закрыцця шпіталяў на вёсках Печкін можа заявіць, што «стаў здаровым, бо цяпер не прыходзіцца хадзіць па лекарах».

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Як змагацца з эколагамі

Канцэрн Siemens, штаб якога знаходзіцца ў Мюнхене, прыдумаў арыгінальны спосаб змагацца з абаронцамі клімату з ініцыятывы Fridays for Future. Вучні, якія складаюць касцяк Fridays for Future, актыўна атакуюць фірму за здабычу вугалю ў Аўстраліі. Менавіта праца мясцовых вугальных электрастанцый, як лічаць аднадумцы Грэты Тунберг, стала адным з фактараў рэкордных тэмператур на тым кантыненце, і, адпаведна, буйных пажараў. Эколагі нават прысвоілі Siemens тытул «забойца клімату». Каб аслабіць крытыку, кіраўнік фірмы Джо Кесер пайшоў на незвычайны крок — прапанаваў 23-гадовай Луізе Нойбауэр — спікерцы руху Fridays for Future, — пасаду ў наглядальным савеце Siemens. Пакуль Луіза думае, ці ўвайсці ў кіраўніцтва канцэрна, у грамадстве ідуць спрэчкі наконт ідэі Кесера. Некаторыя лічаць, што ён ганьбіць нямецкую індустрыю. Іншыя дапускаюць такую тактыку, каб «прыпыніць экалагічную істэрыку дзяцей».

**Паводле нямецкай прэсы**

# На лабутэнах у Дзяржлуму

Алег НОВІКАЎ

**Каб выйграць у 2021 годзе парламенцкія выбары, Крэмль заводзіць у палітыку партыю аматараў кампутарных гульняў. На падыходзе, падобна, партыя папулярнага блогера і нават партыя музыкі-нефармала.**



Фота www.rusmonitor.com

**Вядомы ў геймерскіх колах Слава Макараў, аўтар ідэі і адзін з вядучых распрацоўшчыкаў знакамітай гульні World of Tanks, нечакана для ўсіх абвясціў, што пакідае кампанію Wargaming.net, у якой ён займаў адну з кіруючых пасадаў, дзеля палітычнай кар'еры. Паводле афіцыйнай версіі, адзін са стваральнікаў WoT раптам нечакана вырашыў змяніць свет да лепшага, і для гэтага стварыў уласную палітычную сілу пад назвай «Партыя прамой дэмакратыі». Партыя разлічвае ўдзельнічаць у рэгіянальных выбарах 2020 года, а таксама вылучаць сваіх чальцоў кандыдатамі ў Дзяржлуму ў 2021 годзе**

У расійскіх палітычных тэлешоу любяць здзекавацца з украінскага электарату, які ў мінулым годзе масава галасаваў за шоумэна Уладзіміра Зяленскага. Цяпер, падобна, надыходзіць чарга смяяцца ўкраінцам. Усё ідзе да таго, што на выбарах 2021-га ў Дзяржлуму расіяне будуць галасаваць за яшчэ дзіўнейшыя палітпраекты, чым «Слуга народу».

У тым ліку гэта партыя айцішнікаў (дзяжурная назва праекту — «Партыя прамой дэмакратыі»). Яе афішаваў у мінулыя выхадныя адзін са стваральнікаў кампаніі Wargaming.net (распрацоўшчык вядомай гульні World of Tanks) Вячаслаў Макараў. Відавочна, што мэтавую аўдыторыю «прамых дэмакратаў» прадстаўляе моладзь, якая не ўяўляе жыццё без інтэрнэту і анлайн-гульняў.

У бацькоў-заснавальнікаў партыі негатыўныя ацэнкі расійскай рэальнасці і радыкальныя формулы выхаду з крызіснай сітуацыі. «Запыт на перамены, асабліва характэрны для маладой, адукаванай і актыўнай часткі грамадства, патрабуе неадкладнага вырашэння», — гаворыцца ў маніфесце аргкамітэту партыі, якую ў сацыяльных сетках ужо празвалі «партыяй танчыкаў».

Зрэшты, рабіць сабе пабліцыці Макараў і кампанія збіраюцца не за кошт гучных партыйных праклямацый. «Партыя прамой дэмакратыі» пазіцыянуе сябе перш за ўсё як партыя без лідара. Фішкай праекту павінна стаць нейкая праграма, якая будзе даступная партыйным актывістам. Дзякуючы ёй яны змогуць прагаласаваць за тое, што будзе рабіць арганізацыя. Тым, хто хоча канкрэтыкі наконт працы гэтай шайтан-машыны, давядзецца пачакаць да 5 сакавіка, калі пройдзе Установчы з'езд гэтай палітычнай сілы. Дарэчы, у з'ездзе, як мяркуецца, возьмуць удзел прадстаўнікі такіх буйных кампаній, як «Яндэкс» і іншых.

Айцішнікі — не адзіныя, хто раптам задумаўся пра лёс Расіі. Апошнім часам расійская палітычная сцэна актыўна папаўняецца новымі актарамі. Дастаткова ўспомніць, што напярэдадні Новага года стварыць патрыятычную партыю на базе руху «За праўду» вырашыў пісьменнік Захар Прылепін. Аднак вішанька на торце яшчэ наперадзе: калі верыць спекуляцыям у рунэце, Крэмль заводзіць у палітыку папулярнага блогера Дудзя і вядомага рок-музыку Шнурава («Шнура»), у чыім рэпертуары — акіян нецэнзурнай лексікі.

Маскоўскі журналіст Дзмітрый Кастэнка, каментуючы для «Новага Часу» апошнія навіны, кажа, што прыход Шнурава ў вялікую палітыку — цалкам чаканая з'ява.

«Крамлю тэрмінова патрэбныя спойлеры для перахопу галасоў у партый, якія канкуруюць з "Адзінай Расіяй" ці навязваюць грамадству радыкальную павестку. Шнур і партыя айцішнікаў мабілізуюцца, каб адцягнуць галасы маскоўскага офіснага планктону, у асяроддзі якога модна быць апанентам Пуціна», — кажа Кастэнка. На яго думку, пасля 2021-га ўсе створаныя пад выбары праекты, накшталт партыі Шнурава, знікнуць, паколькі спыніцца фінансавая падпітка.

**Аднак вішанька на торце яшчэ наперадзе: калі верыць спекуляцыям у рунэце, Крэмль заводзіць у палітыку папулярнага блогера Дудзя і вядомага рок-музыку Шнурава («Шнура»), у чыім рэпертуары — акіян нецэнзурнай лексікі**

Большасць экспертаў каментуюць сітуацыю ў падобным ключы. Кансэнсус адсутнічае толькі па пытанні допуску на выбары ліберальных антыпуцінскіх кандыдатаў. Некаторыя лічаць, што гэтым разам улада можа паспрабаваць абысціся і без іх удзелу. Прысутнасць у палітычнай рэкламе такіх экзатычных кандыдатаў, як Шнур, маўляў, можа кампенсаваць абывацелю адсутнасць у бюлетэні прозвішчаў крытыкаў рэжыму.

Зрэшты, усё да канца спрагназаваць нельга. Прэса дапускае, што «партыя танчыкаў» можа выкінуць нечаканы фартэль. Напрыклад, звесці выбаршчыка не ў дэмакратаў, а ў «Адзінай Расіі» — перацягнуць пад свае сцягі яе моладзевы фланг. У такім выпадку фінальны вынік «мядзведзеў» будзе горшы, чым плануюць крамлёўскія паліттэхнолагі.

Акрамя таго, выбаршчыкі могуць не паверыць, што партыі-неафіты сапраўды ўяўляюць нейкую альтэрнатыву адміністрацыі Пуціна, не з'яўляюцца яе крэатурай. Любому, хто хоць неяк цікавіцца палітыкай, зразумела, што без падтрымкі адміністрацыйнага рэсурсу таму ж Макараву банальна немагчыма стварыць у бліжэйшы час больш за 40 рэгіянальных партыйных асяродкаў (умова для ўдзелу расійскіх партый у выбарах).

Можна дапусціць, што выбаршчык адчуе падвох і будзе шукаць спосабы для выяўлення пратэсту. Аднак наўрад ці трэба чакаць нейкіх пазаштатных сітуацый. Прынамсі, Дзмітрый Кастэнка ў сцэнар Майдану не верыць. «Закон аб замежных агентах маргіналізаваў ліберальны грамадскі сегмент і цэнтры апазіцыі. Як вынік — усе прыкметныя апазіцыянеры імкнуцца сёння з'ехаць за кардон, і да 2021-га гэты трэнд зламаць будзе вельмі цяжка», — кажа суразмоўца.

На яго думку, незадаволенасць рэжымам будзе выяўляцца ў падтрымцы камуністаў, якія няндрэнна каціруюцца, асабліва ў правінцыі. Зрэшты, такую пагрозу ў адміністрацыі Пуціна могуць паспрабаваць вырашыць за кошт іншых партый-спойлераў, створаных пад нейкіх іншых фрыкаў. Так што працэс экзатычнага партбудаўніцтва ў Расіі, напэўна, будзе працягвацца.

Зяленскі адпачывае.




Фота www.irishnews.com

# Вяртанне мовы

Алег НОВІКАЎ

**У Белфасце 10 студзеня юніяністы пагадзіліся на кааліцыю з рэспубліканцамі, якія дамагліся ад партнёраў згоды на закон аб ірландскай мове. Пішуць, што, магчыма, гэты дзень калісьці будзе адзначацца як свята перамогі ірландскай ідэнтычнасці.**

Знаёмы ірландзец любіў распавядаць трагікамічную гісторыю пра нейкага чалавека, які жыў у краіне «трэцяга свету» і марыў эміграваць у Ірландыю. Для гэтага ён прымусіў сябе вывучыць ірландскую мову (яе таксама прынята называць гэльскай). Аднак у Ірландыі таго хлопца чакаў шок — практычна ніхто тут не размаўляе на мове тытульнай нацыі. Байка мае глебу: паводле апошняга перапісу насельніцтва 2016 года, у гэтай амаль 5-мільённай краіне толькі 70 тысяч чалавек штодзённа карыстаюцца ірландскай.

Што ўжо казаць пра кантраляваную Лонданам больш за сто гадоў Паўночную Ірландыю, дзе словы «ірландзец» і «тэрарыст» доўгі час лічыліся сінонімамі. Паводле мясцовай сацыялогіі за 2011 год, ірландскую мову ўжывала толькі 0,2 працэнта насельніцтва (прыкладна 4 тысячы чалавек).

Самае парадаксальнае, што роўна сто гадоў таму моўная сітуацыя для гэльскай была не такая кепская — каля 20 працэнтаў насельніцтва карысталіся ёй штодня. Прычым, да носьбітаў мовы адносіліся таксама і шматлікія пратэстанты, якія імігравалі з Брытаніі. За кошт мовы яны падкрэслівалі сваю асобную ад англічан ідэнтычнасць.

Усё змяніла вайна за незалежнасць Ірландыі, якая моцна палітызавала моўнае пытанне. Ірландскія адукацыйныя ўстановы сталі разглядацца як курсы сепаратыстаў. У 1930-я гады былі нават забароненыя добраахвотныя субсідыі недзяржаўным моўным курсам, якія ірландцы спрабавалі ствараць прыватна або ў рамках кааператыўнага руху.

На час пачатку пратэстаў за правы каталікоў-ірландцаў у 1960-я гады, напэўна, адзіным адукацыйным моўным цэнтрам была… турма. Трапіўшы за краты і, адпаведна, маючы шмат вольнага часу, ірландцы штудзіравалі моўныя падручнікі. Прынамсі, «на зоне» вывучыў мову Джэры Адамс — адзін з лідараў левай нацыяналістычнай партыі «Шын Фейн», галоўны абаронца правоў ірландцаў-каталікоў. Дарэчы, хутка гэтым ведам знайшлося прымяненне ў жыцці: вязні камунікавалі на ірландскай мове, каб іх не разумела турэмная адміністрацыя.

**Моўная рэвалюцыя адбылася пасля 2011-га, калі Вялікабрытанія падпісала Еўрапейскую хартыю рэгіянальных моваў. Яна патрабуе ад дзяржавы комплексу мерапрыемстваў падтрымкі моваў меншасцяў**

Па той бок турэмнага муру, у каталіцкіх раёнах Белфасту мелі месца спробы стварыць нешта накшталт ірландскамоўных камунаў. Аднак на агульны лінгвістычны пейзаж гэта амаль не ўплывала. На пачатку 1980-х гадоў філолагі пачалі фіксаваць негатыўны трэнд, калі ў тым ці іншым графстве Паўночнай Ірландыі паміралі апошнія носьбіты гэльскай мовы…

Нешта пачало мяняцца толькі ў 1998 годзе, калі сепаратысты і Лондан падпісалі мірную дамову. Адзін з яе пунктаў прадугледжваў наданне гэльскай статусу афіцыйнай мовы. Хаця ўсё па выніках абмежавалася шыльдамі і плакатамі на гэльскай, гэта для сучаснікаў быў сапраўдны прарыў.

Але ўсё ж моўная рэвалюцыя адбылася пасля 2011-га, калі Вялікабрытанія падпісала Еўрапейскую хартыю рэгіянальных моваў. Яна патрабуе ад дзяржавы комплексу мерапрыемстваў падтрымкі моваў меншасцяў — адукацыя, пераклад заканадаўчых актаў, бюракратычная перапіска, выкарыстанне тапонімаў, доступ да СМІ, падтрымка культурнай дзейнасці і іншыя пытанні. Рэалізацыя патрабаванняў Хартыі кардынальна палепшыла стан ірландскай. У мінулым годзе сярэднюю адукацыю на ёй атрымалі 6 тысяч чалавек. З'явілася сваё радыё і кіно.

Гэта дало падставу марыць пра двухмоўную Паўночную Ірландыю. Для таго і спатрэбіўся Закон аб ірландскай мове, прыняцця якога доўгі час дамагалася «Шын Фейн». Паколькі, паводле мірнай дамовы 1998-га, урад рэгіёна павінен парытэтна складацца з прадстаўнікоў ірландцаў і пратэстантаў, Закон аб ірландскай мове мог быць прыняты толькі са згоды апошніх.

Доўгі час Дэмакратычная партыя юніяністаў (DUP), якая прадстаўляе камуну пратэстантаў, блакавала ідэю. І раптам 10 студзеня лідары DUP далі згоду. Асноўны пункт будучага закону — абавязаць усіх чыноўнікаў камунікаваць пры патрэбе па-ірландску, і на мясцовым дыялекце шатландскай мовы (ён таксама мае статус афіцыйнай мовы). Пры ўрадзе будзе створаны інстытуту камісара па абароне ірландскамоўных.

Ірландская камуна святкуе перамогу. Прадстаўнікі «Шын Фейн» кажуць пра гістарычны трыумф ірландскага духу, і пра тое, што край адкрывае для сябе новую рэальнасць. Аднак скепсісу таксама хапае. Дублінская Irish Times непакоіцца, што пад ціскам нізавога актыву DUP кіраўніцтва партыі з часам адмовіцца ад саступак па мове. Сапраўды, шмат юніяністаў ніжняга эшалону ўжо раскрытыкавалі запланаваную моўную рэформу. Бліжэйшы час пакажа, ці сапраўды Паўночная Ірландыя абрала двухмоўе.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Роберт Бедрань



Самы вядомы адкрыты гей — палітык Польшчы, адзін з лідараў партыі Lewica (Левыя) на выходных быў высунуты кандыдатам у прэзідэнты Польшчы і пачаў сваю выбарчую кампанію. Гэта, натуральна, раз'юшыла мясцовы клуб кансерватараў. Апошнія пачалі правакацыйную кампанію ў СМІ, сцвярджаючы, што Бедрань мае права балатавацца выключна на пасаду першай лэдзі. Такая занадта гнеўная рэакцыя трошкі дзіўная, паколькі Польшча — дастаткова кансерватыўная краіна, і ў абранне Бедраня на пасаду яе кіраўніка вераць хіба толькі самыя заўзятыя энтузіясты. Усё ідзе да таго, што цяперашні прэзідэнт Анджэй Дуда захавае прапіску ў Бельведэрскім палацы. Праўда, адным турам выбары могуць не абмежавацца. На гэта і робяць стаўку ў кіраўніцтве партыі Lewica, разлічваючы на выхад Бедраня ў другі раунд. У такім разе Lewica мае шанец перахапіць у лібералаў брэнд галоўнай апазіцыйнай партыі і, адпаведна, узмацніць свае пазіцыі. Цяжка сказаць, наколькі рэальны такі план, аднак відавочна, што ў Бедраня ёсць салідная перавага над канкурэнтамі. Палітык мае харызму, а таксама выклікае эмоцыі і жывую цікавасць нават у асяродку сваіх палітычных апанентаў — важны чыннік для цяперашняй палітыкі, якая ўсё часцей нагадвае шоу.

### Алена Зяленская



Цяперашняя першая лэдзі Украіны заняла дзяржаўную пасаду пасля адпаведнай пастановы яе мужа — прэзідэнта Уладзіміра Зяленскага. Цяпер першая лэдзі будзе кіраваць Саветам па пытаннях развіцця Нацыянальнага культурна-мастацкага і музейнага комплексу **«Мистецький арсенал».** Цікава, што раней гэту пасаду займала Марына Парашэнка — жонка папярэдняга ўкраінскага прэзідэнта. Праца Марыны ў якасці кіраўніцы Савету, а таксама яе іншыя выхады на публіку не вельмі падабаліся ўкраінцам, што адбілася таксама на выніках прэзідэнцкіх выбараў, якія яе муж прайграў Зяленскаму. Паводле экспертаў, Алена можа паўтарыць шлях папярэдніцы — з часоў Раісы Гарбачовай людзі чамусьці не любяць занадта актыўных першых лэдзі. Не кажучы пра тое, што рускамоўная Алена наўрад ці арыентуецца ва ўкраінскай культурнай спадчыне. Акрамя таго, імя Зяленскай днямі засвяцілася ў цёмнай гісторыі з забойствам Аміны Акуевай — удзельніцы АТА, якую застрэлілі кілеры. Падазраюць, што Акуеву, якую пры Парашэнку абвясцілі героем краіны, мог замовіць чалавек, што быў заснавальнікам рэстараннай кампаніі разам з жонкай прэзідэнта. З іншага боку, украінскую грамадскасць цяпер больш турбуе не Алена Зяленская, а нядаўні незразумелы візіт яе мужа ў Аман, дзе ён, быццам, патаемна сустракаўся з людзьмі Пуціна.

### Альберт Росці



Старшыня правай Швейцарскай народнай партыі (SVP) святкуе перамогу — фракцыя SVP у кантоне Цюрыху 13 студзеня дамаглася прыняцця закону, які, на думку экспертаў, можа стаць прыкладам для іншых правых і ксенафобскіх партый па ўсёй Еўропе. Паводле новага закона, мясцовая паліцыя цяпер будзе мець права публічна заяўляць у сваіх прэс-рэлізах аб грамадзянстве тых, хто падазраецца ў злачынствах. SVP даўно дамагаецца такога закона, які відавочна накіраваны супраць імігрантаў. Прычым у арыгінальным варыянце законапраекту SVP ішла яшчэ далей — паліцыя павінна была таксама паведамляць і пра этнічнае паходжанне падазраваных. У 2017 годзе праціўнікам SVP удалося падчас дэбатаў змякчыць фармулёўку канчатковай версіі закону. Паводле яе, грамадзянства падазраванага агучвалася толькі па патрабаванні прэсы. Народнікі не супакоіліся, і цяпер працягнулі больш жорсткую версію закона. Відавочна, што прыняты парламентарыямі Цюрыху дакумент, мякка кажучы, не пасуе еўрапейскім прававым пастулатам, і імпліментаваць яго спяшацца не будуць. Падобна, што Альберт Росці з аднапартыйцамі чакаюць падобнай рэакцыі і збіраюцца патрабаваць плебісцыту па гэтым пытанні, які ў выпадку правядзення, безумоўна, трапіць у фокус увагі ўсёй Еўропы.


Затрыманыя кантрабандысты


Месца, дзе хавалі кантрабанду



Способы пераносу кантрабанды

# Лёс авантурыста

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Лідскі пракурор 3 верасня 1926 года выпісаў прадпісанне аб перадачы абвінавачаных у злачынным нападзе Сяргея Пясецкага і яго змоўшчыка, Антона Невяровіча, у распараджэнне суда Вільні. Іх арыштавалі пасля здзяйснення нападу на гандляроў. «Сярожу», як называлі будучага таленавітага пісьменніка, сваціла смяротнае пакаранне. Аднак удача любіла гэтага неардынарнага чалавека: ён выкруціўся.**


Сяргей Пясецкі

## Джэймс Бонд з Ляхавічаў

Нарадзіўся Сяргей Пясецкі ў красавіку 1901 года ў беларускіх Ляхавічах у сям'і шляхціца Міхаіла Пясецкага і беларускай сялянкі Клаўдзіі Кулаковіч. Хлопец з малалецтва меў бунтарскі дух. Аднойчы ён моцна пабіўся ў школе — і тады ўпершыню трапіў у турму. Праўда, там ён не затрымаўся — збег у Маскву.

Імперыя Раманавых дажывала апошнія дні. Пясецкі вярнуўся ў Беларусь, дзе ў 1918 годзе ўступіў у беларускія антыбальшавіцкія фарміраванні. Праз год пачалася польска-бальшавіцкая вайна. Калі войскі Пілсудскага ўвайшлі ў Мінск, хлопец стаў польскім жаўнерам. Вясной 1920 года Сяргея накіравалі ў школу падхаружных пяхоты ў Варшаву. Але доўга павучыцца не атрымалася: у жніўні войскі Тухачэўскага падышлі да польскай сталіцы, і Пілсудскі кінуў усе сілы на абарону Айчыны. Дзесьці там супраць «чырвоных» змагаўся і беларус Пясецкі.

У траўні 1921 года Сяргей дэмабілізаваўся. Аднак на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая па выніках Рыжскай мірнай дамовы ўвайшла ў склад Другой Рэчы Паспалітай, было неспакойна. Дзеля таго, каб «залезці ў галаву бальшавікоў», польская выведка патрабавала такіх людзей, як Пясецкі. Хутка ён паступіў на службу ў Другі аддзел польскага Генеральнага штабу (выведкі).

У верасні 1922 года агент «Белы» (такі псеўданім атрымаў будучы пісьменнік) перайшоў савецка-польскую мяжу пад Стоўбцамі і накіраваўся ў Мінск. Пясецкаму атрымалася здабыць вельмі важныя дадзеныя аб дыслакацыі падраздзяленняў Чырвонай Арміі, і пасля гэтага яго перавялі на службу ў выведвальны аддзел у Баранавічах Экспазітуры № 6 польскай выведкі ў Брэсце-на-Бугу.

## У горадзе на Бярэзіне

Пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны Бабруйская крэпасць стала адным з галоўных гарнізонаў Чырвонай Арміі, і таму польскі бок цікавіўся, што там адбываецца. Хутка Пясецкі атрымаў заданне дайсці да горада на Бярэзіне і там увайсці ў кантакт з афіцэрам 8-й Мінскай стралковай дывізіі РСЧА Шукалам. Летам 1920 года гэтая вайсковая частка ўдзельнічала ў баях супраць польскіх войскаў на тэрыторыі Беларусі, а пасля «Рыжскага міру» выкарыстоўвалася бальшавікамі ў барацьбе супраць падраздзяленняў Булак-Балаховіча, Паўлоўскага, Маісеева ў Бабруйскім, Мазырскім і Ігуменскіх паветах. У 1922 годзе ў Мазыры, Рагачове і Жлобіне былі сфарміраваныя новыя стралковыя палкі, якія ўвайшлі ў склад 8-й дывізіі. Хутка ў Бабруйску пачалі фарміравацца падраздзяленні палкавой артылерыі.

У студзені 1923 года Пясецкі зноў быў у Бабруйску. У Баранавічах чакалі дадзеных аб мабілізацыі ў Чырвоную Армію. У адной з польскіх справаздач чытаем: «Агент Пясецкі дасягнуў добрых вынікаў, аднак выканаў заданне толькі часткова, бо не атрымаў ад канфідэнта Шукалы ўсёй інфармацыі. Пакуль інфарматар перадаў чатыры сакрэтныя загады і загад камандавання 8-й дывізіі, які меў дачыненне да вайсковай падрыхтоўкі ў палках. Акрамя гэтага, агент Пясецкі даставіў загады Слуцкага ваенкамата, якія маюць дачыненне да мабілізацыі прыпіснога складу 1883–1901 гадоў нараджэння».

Летам 1923 года ў дапамогу Пясецкаму прызначылі Антона Невяровіча, з якім яны разам накіраваліся на тэрыторыю БССР. Галоўнай задачай «Белага» было стварэнне агентурнай сеткі ў трохкутніку Мінск–Бабруйск–Слуцк. У гэты ж час Пясецкі сумяшчаў прыемнае з карысным — займаўся выведкай і «цягнуў» за мяжу кантрабанду. З Польшчы ішлі адзенне, ежа, а з савецкай Беларусі "вярталася" золата, ювелірныя вырабы, валюта. Быў і іншы кантрабандны тавар, які Пясецкі клаў у «носкі» перад тым, як ісці «ў Саветы». «У Расію я насіў какаін, а адтуль прыносіў футра», — адзначаў у адным з лістоў, напісаных пасля Другой сусветнай, Пясецкі. З дапамогай парашку польскі шпіён прывабліваў да сябе савецкіх чыноўнікаў і вайскоўцаў. У верасні 1923 года «Белы» зноў пайшоў у Бабруйск, каб завербаваць іншага афіцэра 8-й дывізіі РСЧА. У Слуцк для збору інфармацыі аб манеўрах Чырвонай Арміі накіраваўся Невяровіч. Аднак заданне Пясецкі не выканаў і ...знік.

## Злодзей і рабаўнік

Калі кантрабандны тавар скончыўся, Пясецкі і Невяровіч вырашылі вяртацца ў Польшчу. Мяжу абодва перайшлі ў раёне Ракава ноччу 2 снежня 1923 года. У Ракаве побач з каталіцкімі могілкамі (ля вуліцы Мінскай) яны напалі на мясцовых жыхароў і забралі ў іх рэчы і грошы. Раніцай абодвух супрацоўнікаў «Двуйкі» арыштавала польская паліцыя, пасля чаго іх перавезлі ў Навагрудак і змясцілі ў следчы ізалятар. Цікава было тое, што сярод рэквізаваных у Пясецкага рэчаў былі савецкія вайсковыя і цывільныя дакументы, і нават арыгінальная віза «Асабліва аддзела» з Заслаўя.

Па гэтай справе Пясецкі адседзеў у Навагрудку, а пазней і Вільні, 20 месяцаў. У траўні 1925 года Невяровіча выпусцілі пад заклад. Праз год на волю выйшаў і Пясецкі. Відавочна, яму залічылі супрацу з польскай выведкай і пакаралі «па мінімуме». Пасля гэтага абодва спрабавалі зноў супрацоўнічаць з польскай выведкай, аднак без асаблівых поспехаў.

Калі «Двуйка» адмовілася ад паслуг Пясецкага, ён вымушаны быў вярнуцца да крыміналу. У ліпені 1926 года Пясецкі пад Лідай абрабаваў двух габрэяў. А праз месяц «Сярожа» разам з Антонам Невяровічам на шашы з Ліды ў Горадню напаў на габрэйскіх гандляроў Герца і Матлю Карчмера, Абрама Баярскага і іх спадарожнікаў. Здабычай нападнікаў сталі польскія злотыя, амерыканскія долары, залатыя пярсцёнкі і іншыя каштоўныя рэчы. Каштоўнасці і грошы павінны былі пайсці на арганізацыю «экспедыцыі» ў Саветы, аднак усё пайшло не па плане.

У пратаколе польскай паліцыі адзначалася: «Ноччу наступнага дня жыхарка Вільні Ёанна Ізмайловіч паведаміла супрацоўнікам польскай паліцыі ў Новай Вілейцы, што ў яе суседкі Веры Булгакаўскай знаходзяцца два ўзброеных падазроных чалавека. Паліцыя затрымала ўраджэнца Ляхавіч Сяргея Пясецкага і ўраджэнца Мінска Антона Невяровіча. Падчасператрусу пры іх знойдзены два рэвальверы "Наган" і адзін пісталет "Парабелум" з патронамі».

Ужо ў камісарыяце абодва прызналіся ў злачынстве. 30 верасня 1926 года вайскова-палявы суд у Лідзе прысудзіў іх да вышэйшай меры пакарання. Аднак пазней прэзідэнт Польшчы памілаваў злачынцаў, і тыя атрымалі па 15 гадоў турэмнага зняволення. Антон Невяровіч праз год памёр. Яму было 28 гадоў.

## Літаратурны талент, які нарадзіўся ў турме

У «Сярожы» пачаўся новы этап жыцця. Пясецкі сядзеў у розных турмах, у тым ліку і ў сумна вядомым «Святым Крыжы» пад Кельцамі. На асабістай справе былога агента «Белага» стаяла літара «N», што азначала «небяспечны» — ён неаднаразова падымаў бунты вязняў. За гэта адміністрацыя турмаў адзявала на былога выведніка кайданы. У перапынках паміж турэмнымі паўстаннямі былы агент «Белы» шмат пісаў. Першыя дзве яго кнігі, сярод якіх быў «Пяты этап», затрымала адміністрацыя турмы — яны не праходзілі цэнзуру. А вось «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» вырваўся са сцен «Святога Крыжа» на волю і, дзякуючы падтрымцы Мельхіёра Ваньковіча, у 1937 годзе быў апублікаваны. Аўтабіяграфічная аповесць кантрабандыста, які дзейнічаў на савецка-польскім памежжы пад Мінскам, выклікала вялікую цікавасць у чытачоў шматлікіх краін.

У гэтым жа годзе польскі міністр юстыцыі, прафесар Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні Адам Хэлмонскі склаў прапанову прэзідэнту Другой Рэчы Паспалітай Ігнацыю Масціцкаму аб памілаванні таленавітага вязня. «Учора міністр юстыцыі загадаў пракурору Апеляцыйнага суда ў Вільні вызваліць Пясецкага, якому засталося яшчэ сядзець 4 гады. Як вядома, Пясецкі адседжваў пакаранне за шэраг нападаў на памежжы ў перыяд пасля польска-бальшавіцкай вайны», — адзначалася ў адной з тагачасных польскіх газет.

Пасля вызвалення «Сярожа» лячыўся ад туберкулёзу ў Закапанэ, а са снежня 1937 года па сакавік 1938 года жыў у маёнтку Раготна ў Навагрудскім ваяводстве. Там ён арандаваў пакой у доме, які належаў Вандзе Райцэвіч. У 1938 годзе Пясецкага намінавалі на Нобелеўскую прэмію.

## Новая вайна

У верасні 1939 года Германія напала на Польшчу, і былы вайсковец-выведнік Пясецкі запісаўся добраахвотнікам у Корпус аховы памежжа ў Рыконтах. Пасля 17 верасня 1939 года ён накіраваўся ў Варшаву, аднак сталіца пала, і ён праз Беласток вярнуўся ў Вільню. У лютым 1940 года Пясецкі ўстанавіў кантакт з «Хаўрусам узброенай барацьбы» — польскай падпольнай арганізацыяй, з якой потым вырасла Армія Краёвая. У 1942–1944 гадах «Сярожа» (гэтым псеўданімам карыстаўся акавец Пясецкі) удзельнічаў у розных акцыях супраць немцаў. Валоданне мовамі, а таксама веданне асноў канспірацыі дапамагалі яму весці эфектыўную барацьбу супраць нацыстаў. Калі стала зразумела, што былыя паўночна-ўсходнія тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай застануцца ў межах БССР, Пясецкі пакінуў Польшчу. У Італіі ён уступіў у Другі польскі корпус пад камандаваннем генерала Уладзіслава Андэрса. Пасля гэтага выехаў у Вялікабрытанію. Там шмат пісаў, працаваў на пошце, выкладаў рускую мову. Менавіта на Брытанскіх астравах у 1948 годзе нарадзіўся раман «Нататкі афіцэра Чырвонай Арміі».

Памёр Сяргей Пясецкі ад раку ў 1964 годзе. Пахаваны ў Гасцінгсе. На помніку, які стаіць на магіле, бачна выява сузор'я Вялікай Мядзведзіцы.

Фота з архіву аўтара

# Дванаццаць пастак навамоўя

Андрэй РАСІНСКІ

**Заканчэнне. Пачатак у №1 ад 10 студзеня**

**У тэлевізары, сеціве, на старонках газет, у канцылярыі і нават у рэкамендацыях для журналістаў усцяж сустракаецца навамоўе — таталітарны жаргон, што адбірае свабоду. Навамоўе ўтаймоўвае вашыя думкі з дапамогай некалькіх пастак. Якія ж рысы навамоўя?**

### Дзявятая пастка: магія

Навамоўны свет магічны. Гэта значыць, што рэчы пажаданыя і агучаныя — гэта ўжо рэчы здзейсненыя. У навамоўі, як і ў старажытнай магіі, сказаць — гэта зрабіць: «Пяцігодку ў чатыры гады!»; «Дагонім і перагонім Амерыку!»; «Сённяшняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!»; «Жыць стала лепей, жыць стала весялей!»

Змена словаў азначае змену рэчаіснасці. Калі маніпуляваць з мовай, то можна зрабіць са светам усё, што захочацца. Дарэчы, сацыялістычны рэалізм, які паказвае жыццё такім, якім яно павінна быць згодна з пажаданнямі камуністаў, — гэта свет магіі. А вось — звычайная камуністычная фраза, якая стаіць на цвёрдым магічным фундаменце: «Ва ўсенародную барацьбу за далейшы ўсебаковы прагрэс нашай вялікай Радзімы камуністы, усе працоўныя рэспублікі ўключаюцца з глыбокай упэўненасцю ў сваёй узрослай здольнасці працаваць лепш і ўвасобіць у канкрэтныя справы прадвызначэнні маючага адбыцца XXV з'езда КПСС» (28 з'езд КПБ, 1976).

«Працоўныя рэспублікі» яшчэ да таго, як гэтая фраза прагучала, ужо ўлучаныя «ва ўсенародную барацьбу», «прагрэс» ужо здзейсніўся, і застаецца толькі «далейшы ўсебаковы прагрэс». Нарэшце, працоўныя будуць працаваць лепш, бо маюць загадзя «глыбокую ўпэўненасць», якая сілкуецца прадвызначэннямі чарговага з'езду КПСС.

Партыйныя словы твораць жыццё: ворагам прадвызначаюць смерць, а галоўны маг — камуністычны правадыр.

На магію спадзяюцца і «Журналісты за талерантнасць»: «СМІ маюць уладу да пэўнай ступені праграмаваць тое, у якім свеце мы будзем жыць заўтра. І мэта нашай ініцыятыўнай групы — звярнуць увагу журналістаў на чароўную палачку ў іхняй руцэ», — піша Віялета Ермакова ў «Маніторынгу мовы варожасці ў беларускіх СМІ», 2014.

Гэтая магія вяртае ў пракаветныя часы, дзе логіка таксама магічная («падобнае — значыць тоеснае», «у той самы час — значыць тоеснае», «у тым самым месцы — значыць тоеснае»):

1. Беларускія нацыяналісты напісалі тэлеграму нямецкаму кайзеру — значыць, яны здраднікі.
2. Нацыяналісты клапаціліся пра беларускую мову — значыць, усе, хто клапоціцца пра беларускую мову, здраднікі.
3. Нямецкая акупацыя падчас Першай сусветнай вайны = «нямецка-фашысцкай акупацыі ў Вялікую Айчынную вайну» — значыць, усе барацьбіты за беларускую мову — фашысты.

### Дзясятая: селекцыя

У навамоўі словы сплеценыя ў чорна-белае сеціва, якое гарантуе селекцыю словаў, рэчаў і людзей. Чужое не мае права на голас і мусіць быць абясшкоджанае.

Давайце паслухаем выступ сакратара Мікалая Гусарава на XIX з'ездзе КП(б)Б, 1949 год: «Была выкрыта ілжывая нацыяналістычная тэорыйка, нібыта святло культуры ў Беларусь ішло не з усходу [...] Была таксама выкрыта і падвергнута крытыцы другая нацыяналістычная тэорыйка аб «залатым веку», які нібыта перажывала Беларусь у сваім эканамічным, палітычным і духоўным развіцці з XIV — XVI, знаходзячыся ў складзе Літоўскай і Польскай феадальных дзяржаў».

«Нібыта, ілжывая, нацыяналістычная тэорыйка» — пазначае тут мову ворага, які мусіць быць выкрыты і разгромлены. Навамоўе злоўжывае двукоссямі, якія не даносяць да нас чужыя словы, а з гэтых словаў здзекуюцца, ізалююць іх і падводзяць пад расстрэл:

«Пазней, стаўшы "марксістам", Троцкі доўга не мог пагадзіцца, што ёсць у Расіі розумы, вышэйшыя за яго ўласны [...] Паспрабаваў узначаліць "бунт" супраць дэспатызму настаўнікаў [...] Як "кіраваў" Троцкі паўстаннем, можна ўявіць і па тым, што адзіным яго памочнікам у тую ноч, які не адступаў ні на крок, быў Каменеў — той, што за колькі дзён выдаў ворагу план наступлення, зрабіў здраду, за якую расстралялі б у любой арміі», — зрывае маскі з вядомага камуніста-яўрэя Іван Шамякін у рамане «Петраград-Брэст».

А, напрыклад, Барыс Мікуліч у рамане 1932 года «Наша сонца» абясшкодзіў Беларускую Сацыялістычную Грамаду і Беларускую Раду, напісаўшы іх з маленькіх літар.

Усялякім коштам нейтралізоўваць ворага патрабуюць «Журналісты за талерантнасць»: небяспечныя словы з цытатаў суразмоўцаў трэба абавязкова


ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

СТАЛІНЕЦ

2-і год выд. № 61 1934 субота 15 Снежня Дзяржынскі р-н БССР

ОРГАН ПАЛІТАДДЗЕЛУ І РАБАЧКОМУ СВІНАСОЎГАСУ ім. СТАЛІНА

ВАЖНЕЙШАЯ НАША ЗАДАЧА—АТРЫМАЦЬ НА АДКОРМЕ СЯРЭДНЕСУТАЧНЫ ПРЫВЕС НЕ МЕНШ 700 ГРАМ НА КОЖНУЮ СВІНПАГАЛОЎЯ

РАШАЮЧЫ КВАРТАЛ МЯСАЗДАЧЫ

План мясаздачы за 1934 г. па соўгасу складае 1042 ц. Да 10-XII усяго здана 607,42 ц. Для пагашэння запазычанасці па мясаздачы за гэты год мы павінны яшчэ здаць 434,58 ц. мяса.

Часу засталося вельмі мала і таму патрэбна фарсіраваць з адкормам.

Якія меры прыймаюцца к палепшэнню адкорма?

На 10 снежня ў соўгасе стаіць на адкорме 511 галоў свіней агульнай вагой 21.005 кг. Калі фарсіраваць адкормам, за 10 дзён магчыма атрымаць прывесу 3577 кг., прырост 1 галавы за дзень 0,7 кг. На 20-XII агульная вага ўсяго адкорма павінна складаць 245,82 ц. Апрача таго, мы здаем 6 бракаваных кароў і 1 бычка вагой 2.700 кг. Усяго на 20-XII будзем здаваць 273 ц. і застаемся яшчэ ў

Тав. С. М. КІРАЎ у грабу

ПЛАН прыроста мяса па адкормачным брыгадам свінаферм соўгаса імя Сталіна з 10—20 снежня 1934 г.

асуджаць, а яшчэ лепей, варта ўжываць толькі правільную лексіку з апошняга «Маніторынгу мовы варожасці».

У навамоўі за селекцыяй слоў ідзе селекцыя людзей, іх забойства — ці, прынамсі, іх магічная перапрацоўка:

«Разуменне "карная палітыка" ў нашых умовах нават у адносінах да самых рэакцыйных, самых злачынных, самых сацыяльна-небяспечных людзей, усім сваім зместам мае за мэту перавыхаванне так званага злачынца, дапамогу яму ў справе вызвалення ад атрутнай спадчыны капіталістычнага лада», — пісаў Платон Галавач у нарысе пра Беламорканал.

### Апашленне смерці і смеху — адзінаццатая пастка

Навамоўе пазбаўляе смерць глыбіні, а смех — вастрыні. Піянер (камуніст, камсамолец) прагне падарваць сябе і ворагаў адной гранатай, застыць ледзяной глыбай, ён мусіць знявечыцца ў барацьбе за пятую пяцігодку ці ў бітве за ўраджай, нарэшце, яму карціць загінуць ад смагі ў апошняй антыалкагольнай кампаніі. Тыповы савецкі герой не мае свабоды волі, але мае адзін абавязак — паступаць згодна з загадам камуністычнай партыі і стаць пылам пад яе ботамі.

Яшчэ горшая сітуацыя ў навамоўі са смехам. Смяяцца можна, але на загад, кпіць трэба з ворагаў, а жартаваць дазволена над дробнымі бюракратамі (якіх неўзабаве здымуць). Андрэй Мрый, які ў «Запісках Самсона Самасуя» абяцаў вялікую кар'еру свайму герою-прайдзісвету і, што самае нахабнае, абсмяяў савецкае навамоўе, расплаціўся за гэта жыццём. Рагатаць з улады нельга, як і дапускаць «усёдазволенасць», на што скардзіліся старыя камуністы і сувора-сур'ёзныя гендарныя даследчыцы.

**Галоўная таямніца навамоўя не столькі ў тым, што яно забівае ворагаў, колькі ў тым, што заканамерная стадыя навамоўя — смерць яе носьбіта. І на змену камуністу, які пагадзіўся на навамоўе, прыходзіць марадзёр «рускага міру», але і той ужо заікаецца чужой таталітарнаю гутаркай**

### Дванаццатая: кепскі стыль

У выніку навамоўны стыль цяжкі і вязкі. Ён пазбаўлены яснасці і дакладнасці, ён не стасуецца да сітуацыі, мяшае лаянку з навуковым пафасам і грэбуе чытачом. У навамоўі дзеясловы пераўтвараюцца ў груваsткія назоўнікі, родныя склоны ідуць ланцугом, а словы навязліва паўтараюцца:

«Няхай сунуцца зараз апартуністычныя (бундаўскія, ліквідатарскія, народніцкія сволачы, няхай дадуць свой такі-ж дакладны і такі-ж поўны адказ на ўсе запытанні, закранутыя і вырашаныя ў нашай рэзолюцыі!» (Ленін, 1913, Ліст С.Г. Шаумяну, цытуецца на 12 з'ездзе КПБ, 1929).

«Клопаты партыйных камітэтаў аб мэтанакіраванай і па-мастацку паўнацэннай рэпертуарнай лініі садзейнічалі павышэнню грамадскай ролі тэатра, умацаванню яго сувязяў з жыццём народа [...] Неадкладна прыняць канкрэтныя меры па паскарэнню тэмпаў росту вытворчасці, паляпшэнню ўсіх якасных паказчыкаў, каб у лютым выйсці на патрэбны рытм, які забяспечыў бы паспяховае выкананне прынятых абавязацельстваў» (28 з'езд КПБ, 1976 год).

«Дыялектычны матэрыялізм ёсць светапогляд марксісцка-ленінскай партыі. Ён называецца дыялектычным матэрыялізмам таму, што яго падыход да з'яў прыроды, яго метад вывучэння з'яў прыроды, яго метад пазнання гэтых з'яў з'яўляецца дыялектычным, а яго вытлумачэнне з'яў прыроды, яго разуменне з'яў прыроды, яго тэорыя — матэрыялістычнай» (Гісторыя УсеКП(б). Кароткі курс, 1938).

Дарэчы, гендарныя даследчыцы, якія абапіраюцца на неамарксісцкія метады і дамагаюцца «вызначэння значэнняў у вызначаных СМІ», сваім кепскім стылем пераплюнулі камуністаў. Прывяду мой любімы навамоўны ўрывак:

«...спалучэнне якаснага і колькаснага падыходаў сацыялагічнага даследавання з выкарыстаннем інструментара якасных метадаў даследавання для высвятлення кантэксту функцыявання мовы варожасці ў вылучаных для аналізу СМІ і спосабаў канструявання катэгорый гендарнай і сексуальнай ідэнтычнасцяў у дыскурсе мовы варожасці» (Гендарныя аспекты мовы варожасці ў беларускіх медыя, 2016).

Вы што-небудзь зразумелі? Я патлумачу: гутарка ідзе пра мадэль даследавання. Але самае галоўнае — давайце падлічым тут колькасць родных склонаў: адзін, два, тры, чатыры... за тузін пераваліла! У гэтым нагрувашчанні сэнс зусім губляецца, затое тэкст выглядае ўрачыстым і мудрагелістым. Даследчыцы настойваюць: гэта павінна быць узорам для журналістаў!

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што навамоўнымі прыёмамі не грэбуюць і кансерватыўныя аўтары.

Увогуле, таталітарная мова так проста не адпускае зняволены розум. Вось толькі колькі прыкладаў, наўздагад выпісаных з сучасных беларускіх крыніц:

«Ці не спазнілася панначка: клімакс ужо за вуглом» (чорна-белы свет, кабеты, як ворагі. Між іншым, гэта ўрывак з рэцэнзіі!)

«Маніпуляцыі грамадскай свядомасцю праз людзей накшталт Грэты Тунберг у Беларусі не пройдуць» (чорна-белы свет, ворагі, селекцыя).

«Анальный секс остается в авангарде умов общества» (?!)

«Адначасна дэмакратычная форма ўлады спрыяе павелічэнню энтрапіі, разбурэнню грамадскага парадку, прыводзіць да страты кантролю над антыграмадскімі, дэградуючымі працэсамі».

«Вельмі шкада людзей, якія хварэюць на гомасексуалізм, займаюцца фемінізмам» (кепскі стыль, цэтлікі).

«Каму і за колькі дыктатар прадае беларускую зямлю» (селекцыя, чорна-белы свет).

«Топ-5 инфоповодов [...] люди внутри комьюнити [...] термин "квир" остается маркером ЛГБТ-френдли-риторики».

Галоўная таямніца навамоўя не столькі ў тым, што яно забівае ворагаў, колькі ў тым, што заканамерная стадыя навамоўя — смерць яе носьбіта. І таму на змену беларускаму камуністу, які пагадзіўся на навамоўе, прыходзіць марадзёр «рускага міру», але і той ужо заікаецца чужой таталітарнаю гутаркай.

Па-за межамі такога навамоўя жыве чалавек, які бачыць свет разнастайным, не шукае ворагаў, выказваецца дакладна, сцішае хэнць на карысць агульных правіл, шануе розум, прыслухоўваецца да іншых, не вешае цэтлікаў, не баіцца граць і смяяцца з сябе — і аддае належнае вечнасці.

# Купалаўскі ўзнаўляе дзіцячыя ўспаміны

Настасся ПАНКРАТАВА

**Каб ператварыць канцэнтрат пачуццяў у п'есу, спадар Падаляка разам з сааўтарам Міхасём Зуем пераапрацаваў і звёў у адзіны тэкст уласныя ўспаміны акцёраў, сюжэты з інтэрнэту і лісты гледачоў, што адгукнуліся на заклік тэатра падзяліцца сваімі гісторыямі.**



Атрыманы матэрыял перапрацоўваўся, міксаваўся, дапісваўся — у выніку атрымалася пярэстая коўдра з разрозненых эпізодаў, афарбаваных радасцю і смуткам, смехам і болем.

Купалаўскі тэатр акцэнтаваў увагу, што новая пастаноўка — першы эксперымент тэатра з вербацімам. Але гэта згуляла з пастановачнай камандай злы жарт: у прафесійнай прасторы больш спрачаліся пра жанравае дачыненне спектакля, яго ж насычэнне адышло на другі план.

Так, каноны вербаціму, як дакументальнага тэатра, у якім вельмі важна перадаць не толькі гісторыю, але і інтанацыі, тэмперамент, характэрныя рысы канкрэтнага чалавека, парушаныя. Дый сам Раман Падаляка пра гэта гаварыў на брыфінгу перад пачаткам паказу. Ён дакладна ведаў, якія перажыванні хоча вывесці на сцэну, таму не трымаўся вызначаных межаў. Мо, тэатру лепш было не зацыклівацца на прыгожым слове, якое для многіх стала па сутнасці яблыкам разладу?

Калі абстрагавацца ад пытанняў прыналежнасці, можна пабачыць, як праца над жывымі гісторыямі надала выдуманым персанажам непадробленую шчырасць. Некаторыя гледачы на перадпрэм'ерным паказе плакалі, калі Крысціна Дробыш ад імя васьмігадовай дзяўчынкі з захаванай у голасе пяшчотай прасіла маці не падымаць на яе руку, бо «чалавека біць нельга — ні вялікага, ні маленькага», і распавядала свой спосаб выправіць сітуацыю: «Я пракручвала ў галаве ўсе магчымыя сітуацыі, бо мне здавалася, калі пра іх думаць, яны не адбудуцца насамрэч».

Рэжысёр дорыць гледачам радасць пазнання, бо колькі з сённяшніх дарослых і самі калісьці планавалі пабег з садку, вылі ад фразы выхавацелькі накшталт «калі не з'ясі кашу, то недзе пампрэ кацяня», і хавалі ненавісную рыбную катлету ў кішэню кашулі толькі дзеля таго, каб нарэшце выпусцілі з-за стала.

Прыемна, што мастак Таццяна Дзівакова не стала выводзіць на сцэну кіслотныя фарбы, якімі так любяць размалёўваць спектаклі, датычныя дзіцячай тэмы. Яе прастора сцэны — чорна-белая, бы старыя фотаздымкі, з асобнымі светлавымі ці каляровымі плямамі, быццам успышкамі ўспамінаў. І першай прыкметнай дэталлю, што з'яўляецца ў руках акцёраў, становіцца літара «Я». Тая самая, пра якую нам у дзяцінстве казалі, што гэта апошняя літара алфавіту. Тая, якую рэабілітавалі сённяшнія псіхолагі: з яе дапамогай дзеці намацваюць сваю самасць і імкнуцца адчуць сябе асобай.

Радуе, што акцёры Валянціна Гарцуева, Крысціна Дробыш, Іван Кушнярук, Павел Астравух не «гуляюць у малых», а ўслед за рэжысёрам імкнуцца ў дзіцячых успамінах знайсці тое апірышча, якое дапамагае дзятве ўпісацца ў жорстка прапісаныя дарослымі патрабаванні, але пры гэтым яшчэ не страціць даверлівасць і адкрытасць свету.

Раман Падаляка знарок не трыгерыць на страшэнных сітуацыях. Услед за шчымлівымі гісторыямі ён мансіруе смешныя альбо лірычныя эпізоды. Рэжысёр улавіў галоўную псіхалагічную асаблівасць той часткі дзяцінства, якая яшчэ не дайшла да з'едлівасці падлеткавага ўзросту: ва ўспрыманні дзіцяці — неверагодным для дарослых людзей чынам — яднаецца балючы вопыт з радаснымі перажываннямі. Як адмоўныя, так і станоўчыя эмоцыі размяшчаюцца ў памяці, бы тыя «сакрэцікі» пад кавалкамі шкла. Аналізаваць іх чалавек будзе нашмат пазней. Вось гэтая бязмежная адкрытасць свету, якая яшчэ не паспела змяніцца расчараваннем, жыццёвым цынізмам і прагматызмам — надзвычай трапнае і самае каштоўнаеназіранне пастановачнай каманды «Першага».

*Дзякуй Купалаўскаму тэатру за прадстаўленыя фотаздымкі*



# БагатаДата

**А вы ведаеце, што беларус пэўны час кіраваў студыяй «Манголкіно»? А аўтар рускіх «народных» песень, кшталту «Кацюшы» ды «Ой, цвіце каліна», цесна звязаны з Беларуссю? Больш цікавостак — у нашым аглядзе.**

## 18 студзеня

1895. У горадзе Івянец Валожынскага раёна на Міншчыне нарадзіўся педагог, матэматык і грамадскі дзеяч Лявон Більдзюкевіч. Быў загадчыкам Мінскай школы сляпых, дзе паравёў навучанне на беларускую мову. Распрацоўваў навучальныя праграмы для беларускай пачатковай школы і займаўся матэматычнай тэрміналогіяй па-беларуску. У 1938 годзе арыштаваны па «справе Саюза вызвалення Беларусі», асуджаны на 5 гадоў лагераў, памёр на Калыме.

## 19 студзеня

**Сусветны дзень рэлігіі.** А ў Беларусі адзначаецца **Дзень ратаўніка.**

**1900.** У Мінску нарадзіўся філолаг і філосаф Віктар Баркоўскі. Рэдактар знакамітай манаграфіі Яўхіма Карскага, які быў яго цесцем, «Беларусы».

**1900.** У вёсцы Глотаўка Смаленскай вобласці нарадзіўся савецкі літаратар, паэт-песеннік Міхаіл Ісакоўскі. На яго вершы напісаны песні: «Кацюша», «Ляцяць пералётныя птушкі», «Ворагі спалілі родную хату», «Самотны гармонік», «Якім ты быў, такі ты і застаўся», «Ой, цвіце каліна». Шмат перакладаў на рускую мову творы беларускай літаратуры — нездарма ж нарадзіўся на блізкай нам Смаленшчыне. Непрыемны выпадак здарыўся з перакладам верша «Бывайце здаровы» Адама Русака. Аднайменная песня доўгі час лічылася ці то народнай з рускамоўным перакладам Ісакоўскага, ці то напісанай на яго верш. Але Русак адстаяў сваё аўтарства, і Ісакоўскаму давялося выбачацца.

## 20 студзеня

**1955.** У вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці нарадзіўся пісьменнік і журналіст Анатоль Зэкаў. Узначальваў сталічную гарадскую газету «Добры вечар» у першай палове 1990-х гадоў, затым быў галоўным рэдактарам «Беларускай лясной газеты», кіраваў часопісам «Вожык», на яго вершы спявалі песні Якаў Навуменка і Анатоль Ярмоленка.

**1960.** Скасавана Маладзечанская вобласць. Яе раёны перадалі Віцебшчыне, Міншчыне і Гродзеншчыне. А існавала Маладзечанская вобласць з 1944 года — у яе перайменавалі тады Вілейскую вобласць.

## 21 студзеня

**Міжнародны дзень абдымкаў.**

**1905.** У Мінску нарадзіўся тэатральны дзеяч Яўген Рамановіч. Ён быў акцёрам Купалаўскага тэатра, драматургам, пераклаў на беларускую мову вядомыя п'есы рускай літаратуры — ад Горкага да Астроўскага.

**1930.** У Гомелі нарадзіўся піяніст, дыктар і вядучы канцэртаў Уладзімір Шаліхін. Вёў на Беларускім тэлебачанні шэраг перадач і «Панараму навін».

## 22 студзеня

**1935.** Адбыўся адзінаццаты Усебеларускі з'езд Саветаў, які канстатаваў канчатковую перамогу калгаснага ладу ў БССР (у калгасах на той момант было аб'яднана 72,6% сялянскіх гаспадарак). Старшынёй Цэнтральнага выканаўчага камітэта быў пераабраны Аляксандр Чарвякоў. Усебеларускі з'езд Саветаў затым склікаўся яшчэ толькі адзін раз — каб абвесціць першыя выбары ў Вярхоўны Савет БССР.

## 23 студзеня

**1875.** У горадзе Раслаўль Смаленскай вобласці Расіі нарадзіўся рускі і беларускі культурніцкі дзеяч, мастак Дзмітрый Полазаў. Быў сябрам Янкі Купалы. Шмат яго карцін цяпер знаходзіцца ў фондзе Дзяржаўнага музея Янкі Купалы ў Мінску, у тым ліку і партрэты класіка беларускай літаратуры.

**1920.** У Махачкале (Расія) нарадзіўся вядомы беларускі мастак Пётр Данэлія. Пэўны час быў галоўным мастаком Брэста, дзе жыў і памёр.

## 24 студзеня

**Міжнародны дзень адукацыі.**

**1885.** У Полацку на Віцебшчыне нарадзіўся кінарэжысёр Юрый Тарыч (сапраўднае прозвішча — Аляксееў). Псеўданім узяў пасля таго, як быў арыштаваны ў 1905 годзе як рэвалюцыянер і высланы ў вёску Тара Табольскай губерні. У гісторыю ўвайшоў як творца, які зняў у 1926 годзе першы беларускі мастацкі фільм «Лясная быль» па аповесці Міхася Чарота «Свінапас». У 1943–1945 гадах кіраваў студыя «Манголкіно», затым працаваў збольшага ў Маскве, дзе памёр і быў пахаваны. На радзіме, у Полацку, каля кінатэатра «Радзіма» Юрыю Тарычу ўсталяваны помнік.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 82

Падпісана да друку 17.01.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.